


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ




http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

№ 29 (3349) Год LXV

Беласток, 19 ліпеня 2020 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Царква расце да неба!

**У Жаночым манаскім доме святой вялікамучаніцы Кацярыны ў Залешанах 25 ліпеня гэтага года ў час свята ў гонар Залешанскай іконы Божай Маці маюць быць супольна праслаўлены мучанікі Падляшскія. Да іх ліку Саборам епіскапаў Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ўключаны былі восенню мінулага года вазакі забітыя каля Пухалаў-Старых, вясной гэтага года — жыхары Занёў і Шпакоў і да іх маюць быць яшчэ да святкавання далучаны забітыя і спаленыя жыхары Залешан і іншых вёсак — ахвяры атрада Нацыянальнага вайсковага згуртавання, якога камандзірам быў Рамуальд Райс «Буры», забітыя і спаленыя ў пачатку 1946 года. Далучаюцца яны да ліку мучанікаў Падляшскіх і Холмскіх. У Залешанскім манастыры пішацца ікона ў гонар пакутнікаў, якая мае быць асвечана 25 ліпеня, у час супольнага праслаўлення мучанікаў Падляшскіх.**






Мясцовыя жыхары мяркуюць, што па хадайніцтве ў Бога гэтых пукутнікаў быў заснаваны і дзейнічае Жаночы манастыр у Залешанах. Ігумення Кацярына (Нічыпарук) з 2007 года паспяхова кіруе дзейнасцю манаскага дома ў Залешанах, які быў тады заснаваны. Зараз у ігуменні Кацярыны многа турбот. Нагляданне за будовай манастырскай мураванай царквы і з сёстрамі рыхтуецца да святкавання. У ліпені мінулага года быў умураваны краевугольны камень і з восені інтэнсіўна будуецца манастырская царква святой Кацярыны і мучанікаў Падляшскіх і Холмскіх.

— У час літургіі, якая будзе служыцца 25 ліпеня, адбудзецца супольнае праслаўленне нашых мучанікаў, загінуўшых у пачатку 1946 года, і афіцыйнае іх далучэнне да ліку мучанікаў Падляшскіх і Холмскіх. Наша сястра піша ікону мучанікам Падляшскім, на якой будзе таксама выява Божай Маці і агульны выгляд нашай царквы. Піша яна надоўга і таму на першай іконе, якой асвячэнне адбудзецца ўжо 25 ліпеня, будзе толькі частка мучанікаў. Аднак прадбачваем напісанне большай іконы з большай колькасцю нашых святых мучанікаў Падляшскіх, — пачала расказваць ігумення Кацярына.

Царква ў гонар вялікамучаніцы Кацярыны і мучанікаў Падляшскіх і Холмскіх запраектаваная ў візантыйскім стылі. Яе плошча складзе каля 200 квадратных метраў, а вышыня — 12 метраў. У царкве будзе падлогавае ацяпленне.

— Будова царквы пачалася ў снежні мінулага года. Перад пачаткам будовы прыбылі да нас мошчы святой вялікамучаніцы Кацярыны. Мы адслужылі малебен перад імі і яшчэ да пачатку будаўнічых прац абнеслі мошчы вакол месца будовы царквы. Цяпер закончыўся першы этап будовы царквы-помніка ахвярам Падляшскай зямлі, якія тут аддалі жыццё за праваслаўе ў 1946 годзе. Будове спрыяла лагодная зіма. Спачатку быў выкапаны катлаван пад фундаменты. Былі выканаresny апалубка і арматура для 16 бетонных стаўбоў — шкілета і галоўнай падпоры царквы, — сказала ігумення Кацярына.

Дзейнасць манаскага дома пачалася ў муранай хаце, у якой раней жыла і гаспадарыла звычайная сям'я. У ёй было выдзелена месца для хатняй часоўні, дзе служыліся літургіі, усяночныя багаслужбы, малебны і чыталіся акафісты. Непадалёк ад месца будовы муранай царквы знаходзіцца будынак з вялікай сталовай і пакоямі для начлегаў, які быў раней тут збудаваны, з частковым выкарыстаннем гаспадарчага будынка. Цяпер жывуць у ім манашкі.

— Мы тут збудавалі часовую драўляную царкву, якая ў мінулым годзе была перанесена на другое месца, разбудаваная і зараз мы ў ёй молімся. Яна ўсярэдзіне невысокая, добра ўцеплены вонкавыя сцены і столь, таму зімой можна было ў ёй маліцца ў цёплай абстаноўцы, — заявіла ігумення Кацярына.

Да дома залешанскай сям'і дабудавана было памяшканне, у якім трапезнічаюць паломнікі пасля багаслужбаў. Дзейнічае ў ім таксама манастырская майстэрня — выконваюцца там свечкі, іконкі і адна з манашак піша іконы.

— Пачатку дзейнасці манастыра і будове царквы спадарожнічалі цяжкасці і перашкоды, якія па-людску паказваліся складанымі да пераадолення. З дапамогай нам прыходзяць нашы святыя і мы верым, што за іх хадайніцтвам у Бога атрымліваем дапамогу. У важных нам момантах паяўляліся невядомыя нам ахвяравальнікі. Будова царквы патрабуе многа клопатаў, афармлення розных спраў і вялікіх фінансаў. Аднак гэта ўдзячныя намаганні, паколькі царква будуецца на Божую хвалу. Гэта яднае людзей, якім дарагая гісторыя гэтага месца, блізкі Бог і яны старающца ўспамагаць нашу будову. Царква паўстае дзякуючы дапамозе многіх ахвяравальнікаў і перш за ўсё з невялікіх ахвяраванняў. Мы дзякуем Богу і людзям, якія ўспамагаюць будову храма. Пачалося ўжо мураванне сцен з цэглы. Гэта патрабуе вялікіх фінансавых сродкаў і таму звяртаюся з заклікам дапамагчы нашай супольнай інвестыцыі — будове царквы ў гонар святой вялікамучаніцы Кацярыны і святых мучанікаў, якія тут у 1946 годзе аддалі жыццё за праваслаўе. Нядаўна паявілася ў нас цудоўная ікона Божай Маці, якая таксама спасылаецца на трагічныя здарэнні ў Залешанах у 1946 годзе. Усім людзям добрай волі дзякуем за дапамогу і завяраем аб малітвах за нашых ахвяравальнікаў. Будзем намагацца, каб у бліжэйшым часе закончыць суровы стан будовы нашай царквы і прыкрыць яе, — сказала ігумення Кацярына.

Асобы, якія хочуць фінансава падтрымаць будову царквы ў Залешанах, могуць пералічыць грошы на банкаўскі рахунак манаскага дома (**Bank Spółdzielczy w Brańsku, nr konta: 18 8063 0001 0070 0706 5918 0001**) або перадаць наяўныя грошы іншым спосабам.

— Кожны манастыр вядзе нейкую дзейнасць, якая дае прыбытак для яго ўтрымання. Мы заснавалі манастырскі магазін «Галілея» ў Бельску-Падляшскім па вуліцы Сянкевіча, 3, непадалёк ад ратушы. Там прадаем між іншым крыжыкі, іконы, духоўную літаратуру. Залежыць нам таксама на выдавецкай дзейнасці, якую цяпер вядзем у невялікім маштабе. Выдаючы кніжкі, мы звяртаем увагу на патрэбы людзей, якія хочуць маліцца і чытаць. У канцы мая гэтага года мы выдалі «Псалтыр з малітвамі за жывых і памерлых» і «Параклiс — малітоўны канон да Прасвятой Багародзіцы». У наш манастыр прыязджаюць людзі хворыя або тыя, якіх спасцiглі розныя трагедыі. У многіх нашых паломнікаў духовыя праблемы і ніхто, так як Багародзіца, не ў змозе ім дапамагчы. Мы стараемся чытаць штодзень малітоўны канон да Прасвятой Багародзіцы перад Залешанскай іконай Божай Маці і ўспамінаем імёны ўсіх, якія просяць у нас малітваў да Багародзіцы, — паінфармавала ігумення Кацярына.

Мясцовыя жыхары і паломнікі разлічваюць на апеку Божай Маці і будуць маглі прасіць дапамогі ў мясцовых мучанікаў. Мураваная царква, якая будуецца на панадворку Манаскага дома ў Залешанах, будзе нагадваць між іншым аб праваслаўных беларусах з нашых вёсак, забітых атрадам «Бурага», якія цяпер сталі святымі мучанікамі. Магчыма, што на святкаванне ў апошнюю суботу ліпеня прыедуць у Залешаны іх нашчадкі і сямейнікі. Штораз больш вернікаў пастаянна прыязджае маліцца ў Жаночы манаскі дом у Залешанах па суботах і нядзелях. Частка гэтых асоб раней дапамагала фінансава і сама заангажавалася ў будову часовай драўлянай царквы, у якой моляцца з лета мінулага года. Паломнікі, якія прыязджаюць на малітвы ў Залешаны, дапамагаюць таксама фінансава ў пабудове муранай царквы.

— Доўга я была тут сама, пасля далучыла да мяне сястра, а цяпер нас тут чатыры асобы. Раней нашы наведвальнікі прывыклі, што ў кожную апошнюю нядзелю месяца служылася ў нас літургія. У гэтым годзе памянялася і цяпер літургія служыцца ў кожную суботу і нядзелю. У нас моляцца мясцовыя вернікі і прыезджыя паломнікі, — паінфармавала ігумення Кацярына. — Запрашаю ўсіх на святкаванне ў гонар Залешанскай іконы Божай Маці і святых мучанікаў Падляшскіх і Холмскіх, якое адбудзецца ў апошнюю суботу ліпеня. 24 ліпеня будзе служыцца ўсяночная багаслужба, а ў сам дзень свята, 25 ліпеня, у час літургіі мае адбыцца ўрачыстае далучэнне да ліку святых мучанікаў Падляшскіх і Холмскіх нашых пакутнікаў з Залешан і навакольных вёсак, якія загінулі ў 1946 годзе.

29 студзеня 1946 года ў Залешанах атрадам Рамуальда Райса «Бурага» былі сагнаны ў адну хату жыхары гэтай вёскі і была яна падпалена. Хаця гэтым людзям удалося ўратавацца ад смерці, у Залешанах забітыя былі тады і згарэлі 16 чалавек, у тым ліку жанчыны і дзеці. Амаль цэлая вёска была спалена. Загінулі тады сямейнікі Сяргея Нічыпарука, які родам з Залешан і заадно яго дачкі, ігуменні Кацярыны. Вярнулася яна на пастаяннае жыхарства ў родную вёску бацькі і з 2007 года паспяхова кіруе дзейнасцю Жаночага манаскага дома святой вялікамучаніцы Кацярыны ў Залешанах.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**





# А суддзі нашто?

У сённяшняй Беларусі ў суды можна хадзіць як у тэатры абсурду. З той, аднак, істотнай розніцай, што тэатр — гэта ўсё ж гульня акцёраў, за якую плаціцца параўнальна невялікія грошы. Суды ж Рэспублікі Беларусь — гэта такія „тэатры”, дзе тых, каго судзяць — караюць альбо агромністымі грашовымі штрафамі, альбо так званым адміністрацыйным арыштам ва ўмовах, дзе адпачыць ад штодзённай мітусні ніяк не ўдасца.

Як казаў літаратурны герой незабыўнага чэшскага пісьменніка Яраслава Гашака: трапіў у лапы правасуддзя — справа дрэнь. Спадзявацца на нейкія юрыдычныя, маральныя ці сэнсавыя нормы ў гэтых судах не даводзіцца. Да поўнага абсурду, калі б і адвакаты ў сваіх выступах казалі пра поўную вінаватасць падабаронных, яшчэ не дайшло. Яны, адвакаты, сумленна выконваюць сваю працу, прыводзяць довады і доказы невінаватасці людзей, але сэнс усёй іх карпатлівай юрыдычнай працы на гэтым бязлітасным карным судовым канвееры проста губляецца. Урэшце ў канцы ўсіх гэтых працэсаў узнікае натуральнае пытанне — навошта патрэбныя гэтыя суддзі ўвогуле, яны ківаюцца як кітайскія балванчыкі і ўся іх місія — гэта агучыць урэшце карныя пастановы. А па сутнасці міліцыянты хапаюць людзей на вуліцы, самі складаюць на іх пратаколы, самі абвінавачваюць і самі сведчаць на судзе (ніякія іншыя сведкі непатрэбны ім зусім). Лагічна было б скараціць увогуле гэтых людзей у чорных мантыях. Няхай бы міліцыянты самі і прысуджалі тое, што ўжо вызначана загадзя ў іншых кабінетах палкоўнікамі, якія кіруюць спецаперацыямі па зачыстцы цэнтраў беларускіх гарадоў ад грамадзян, усё злачынства якіх толькі ў тым, што яны хочуць рэалізаваць свае канстытуцыйныя правы.

Вось і ў гэтую выбарчую кампанію мноства людзей у розны спосаб церпіць ад пераследу паводле сваіх палітычных перакананняў. Фармальна еўрапейскі карабель пад назвай Беларусь усё бліжэй дрэйфуе да такіх азіяцкіх „узораў дэмакратыі” як Узбекістан, Туркменістан і ім падобныя. 29 траўня пасля правакацыі ў дачыненні да блогера Сяргея Ціханоўскага сілавікі ў Гродне схапілі разам з ім дзясятак людзей. Сярод іх і блізкія паплечнікі апазіцыянера, які набраў значную папулярнасць, і звычайныя прыхільнікі, якія прыйшлі падпісацца за вылучэнне Святланы Ціханоўскай (хто не ведае ці забыўся — самому Сяргею Ціханоўскаму не далі шанцу зарэгістравацца кандыдатам). Каго схапілі проста на крэсле, калі ён ціха збіраў подпісы, каго загрэблі толькі таму, што знаходзіўся непадалёк Ціханоўскага. Цяпер усе яны праходзяць па крымінальнай справе і зняволены ў Мінску. У сталіцы нашай шчаслівай радзімы ў сапраўдных катавальнях знаходзіцца і шэраг беларускіх вядомых палітыкаў. Іх бесперапынна судзяць, кідаюць у карцар, ствараюць невыносныя і нялюдскія ўмовы турэмнага зняволення. Над Міколам Статкевічам, Паўлам Северынцам, іншымі чыняцца здзекі, а паралельна дзяржаўныя прапагандысты святкуюць 75-я ўгодкі вызвалення ад фашызму. У гэты час людзей катуюць у карцарах у мінскіх турмах. Пра ўмовы зняволення расказваюць тыя, каго выпусцілі, прыкладам рэжысёрка Вольга Нікалайчык. Выпусцілі, каб потым зноў пасадзіць. У турмах холадна, вошы, людзям не даюць піць, нармальна спаць, забіраюць асабістыя рэчы.

Больш 20 чалавек у Беларусі ўжо прызнаны палітвязнямі, фактычна іх яшчэ больш. Сотні тых, хто выходзіў на вуліцу на знак салідарнасці з незаконна зняволенымі, засуджаны да штрафаў і арыштаў. А суддзі выходзяць і судзяць, судзяць, судзяць. І не чырванеюць, схаваўшы свой сорам далёка ў нейкую глыбінную незагральную шафу. А міліцыянты прыходзяць на судовыя пасяджэнні і хлусяць, хлусяць, хлусяць. Праўда, часта блытаюцца ў сваіх сведчаннях і ўсё гэта выглядае яшчэ агідней. А фігурныя дагледжаныя судовыя сакратаркі гэтыя сведчанні акуратна занатоўваюць — папера ўсё сцерпіць. Напэўна тыя, хто насамрэч здзяйсняюць парушэнні заканадаўства, думаюць, што ім не давядзецца некалі адказваць за свае дзеянні. А можа спадзяюцца, што ўсе гэтыя дакументы будуць знішчаны. Хоць у эпоху інтэрнэту і лічбавых тэхналогій спадзявацца на гэта марна. Ачысціцца ад грахоў ілжэсведчання і крывадушнасці будзе яшчэ цяжэй. Але пакуль летапіс пераследу і рэпрэсій доўжыцца.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Гэта, вось, Польшча



Некалькі месяцаў таму майго сябра высцебала да крыві бязлітасная пуга інтэрнэтнага гейту. А ўсё толькі таму, што ён аблаяў самымі ветлівымі словамі пэўнага гарачага карыстальніка фейсбукавай дыскусіі за аганьбаванае паловы — больш-менш — грамадзян Рэчы Паспалітай. Ідэя, якую гэты гарачы дзядзька абараняў, як сваё мыла славуты Заблоцкі, зводзілася да простага лозунга: «Кожны, хто не з намі, не паляк!», прадвяшчаючы напад уяўных ворагаў, ён акружыў сваю крэпасць астраколам гадкіх абраз, накіраваным на тых, хто адважыўся б па-іншаму меркаваць на гэты конт. Хачу дадаць, што ўся супярэчлівая дыскусія разгарнулася вакол важнага пытання, ці мы, як грамадзяне, хочам, каб нам кіравалі, альбо, хутчэй, аддаем перавагу сумеснаму кіраванню, усведамляючы свае дэмакратычныя правы і абавязкі. Тэарэтычны дыскурс павярнуўся ў бок адкрытай вайны. Карыстальнік, якога папракнуў мой сябра, неадкладна адрэагаваў на яго кучай абраз і паклёпаў. Сярод іх яўрэй, масон і здраднік былі толькі нявіннымі праверкамі яго прамоўніцкіх магчымасцей. Пасля абразлівага ўступлення, пабудаванага па той жа сінтаксічнай карціне: ты х..., ты к ..., ты с..., было шмат, шмат іншых, шмат'ярусных праклёнаў, квітнеючых як луг у чэрвені, я дазволю іх змаўчаць або выпісаць кропкамі. Мой сябар культурна дачакаў да канца. Правёўшы ўважлівы агляд сваіх маральных паводзін, асабліва з пункту гледжання пытанняў з пагранічча псіхалогіі глыбіні, ці паводзіў ён сябе так, як к... і х..., ён вырашыўся на кароткі і сумленны адказ: «Дзякую Пану, — напісаў ён, — але Вашы здагадкі на маю тэму не вельмі дакладныя». І ўсё. На жаль, гэта быў толькі пачатак. Хваля нянавісці, якую ён неўзабаве пацярпеў, неадназрова пераўзыходзіла энергію раздушвання найбуйнейшага цунамі. Супольнасць фейсбука сканцэнтраваная вакол ідэі «Тыя, хто не з намі, не палякі», ашчаперваля патрыятычныя кіпцюры, агаляла свае богабаязныя клыкі, хлусіла і істэрычна вішчала. Можна было б падумаць, што другі бок супрацьстаіць ёй роўнай сілай, што стане не толькі за маім сябрам, як за каштоўнасці, якія ён належным чынам прадстаўляў. Выказаліся толькі некалькі чалавек. І так культурна, як мой сябар, калі не сказаць, што ён млява, яны выказалі сваё абурэнне надзвычайнай агрэсіяй ці нават звычайнай грубасцю супрацьлеглага боку. А той трыумфаваў, кіпячы сваёй колькаснай перавагай, калектыўнай беспакаранасцю, сілай расчараванай масы ананімных людзей. Мой сябар паспешліва выйшаў з дыскусійнага форуму і праз некалькі дзён, пакуль выпісаўся з дыскусіі, разгледзеў апошнія заявы форумаў. Да яго здзіўлення, дыскусія ў інтэрнэце выбухнула, як пучок саломы. Хоць ён і такія ўдзельнікі, як ён, даўно замоўклі, дыскусія працягвалася. Нядаўняя супольнасць вядомай ідэі нечакана распалася на асобныя фракцыі. Контратака адной выклікала контратаку другой, а другая прыводзіла трэцюю і чацвёртую. У сувязі з адсутнасцю новых аргументаў, калі на старонках халастых спрэчак нават вычарпаны слоўнік праклёнаў і зняваг, майго сябра назвалі злыдухам, які зноў распальвае агонь заўзятасці. «Ты ведаеш, — ён прызнаўся мне дрогкім голасам, — я адчуваю сябе як труп, над якім усё здзекуецца. Гэта дзіўна, але нават мёртваму баліць».

Калі я пішу гэтыя словы — дзень пасля выбараў у Польшчы. Афіцыйныя вынікі ўсеагульнага выбарчага галасавання пакуль невядомыя. Даследаванні экзітпол на апытанне нічога не вырашаюць. Абодва кандыдаты ў прэзідэнты раўнамерна ідуць, як сказаў бы мой дбайны дзед, — хвост у хвост. Цяпер шмат што залежыць ад таго, як прагаласавалі польскія імігранты, якія пашукалі лепшага жыцця за мяжой. Іх галасы проста даплываюць з усяго свету. Мы даведаемся пра іх перакананы выбар праз некалькі дзён. Цікава таксама, што гэтую ўнутраную збалансаваную пазіцыю супрацьлеглых польскіх арыентацый можа парушыць толькі трэцяя, іміграцыйная, знешняя арыентацыя. Любая дыскусія наконт таго, ці будзем мы аддаваць перавагу таму, каб намі кіравалі, ці хочам супольна кіраваць нашай краінай, у гэты час не мае сэнсу. Але хутка зноў выбухне. Без сумнення. Мы, у рэшце рэшт, пастаянна падзеленыя. Такая, вось, Польшча.

**Міраслаў ГРЫКА**



## Сваімі вачыма

# Выбары за намі

Ну і дачакаліся.Сапраўдны выбарчы жахлівік. Выбаршчыкам са слабейшымі нервамі не дапамагаглі супакойваючыя пілюлькі і напіткі. Да канца невядома было, хто стане пераможцам. Усе чакалі на вынікі з Варшавы і Еўропы. Хто каго абгоніць. У момант аддавання нумару ў друкарню ў панядзелак пасля поўдня, не мелі мы канчатковых рашэнняў. Паводле даных Дзяржаўнай выбарчай камісіі з панядзелкавай раніцы, вынікала, што лідзіруе і пераабраным на другі прэзідэнцкі тэрмін стане Анджэй Дуда. З амаль ста працэнтаў выбарчых участкаў, выйгравае ён з невялікай перамогай 51,12%, набіраючы 10 мiлiёнаў, 426 тысяч 939 галасоў, а ягоны канкурэнт Рафал Тшаскоўскі атрымаў 48,88%,гэта значыць 9 млн, 968 тысяч 939 галасоў, пры выбарчай яўцы 67,97 працэнта. Розніца можа быць аднак яшчэ меншай. З аднаго боку гэта вялікі палітычны капітал, але тады такі вынік напэўна будзе патрабаваць ад прэзідэнта як найхутчэйшага прыцішэння палітычнага падзелу польскага грамадства. Інакш будзем мець пастаянную, палітычную суматоху, якая нічым добрым можа не закончыцца. Гэтай польска-польскай вайной мы, звычайныя грамадзяне, проста стомлены. Аднак гэтага не хочуць зразумець многія палітыкі, якія ў сваім быццам наркатычным танцы дзеля сваіх мэт пастаянна раскалыхваюць настроі і эмоцыі грамадства. Людзі ў далейшай перспектыве не ў змозе жыць пад пастаянным ціскам палітыкі, быццам найважнейшай жыццёвай справы польскага грамадства. Таму з пэўнай надзеяй выслухаў я першыя словы Анджэя Дуды, ягонай жонкі і дачкі пра неабходную патрэбу пашаны для іншых поглядаў другога чалавека, да якіх ён мае права. Спадзяюся, што польскі выбарчы марафон урэшце завяршыўся і не шыкуюцца перад намі аніякія датэрміновыя, парламенцкія выбары. Пішучы пра выбарчы марафон не маю на думцы толькі што завершаных прэзідэнцкіх змаганняў. Нашым чытачам хачу вось зараз прыгадаць той апошні раздзел польскай палітычнай вайны. Усё пачалося амаль два гады таму назад. Менавіта 13 жніўня 2018 года прэм'ер Польшчы Матэуш Маравецкі прызначыў на 21 кастрычніка 2018 года першы тур самаўрадавых выбараў, а на 4 лістапада другі тур. Самаўрадавыя выбары былі пачаткам мацавання дужакоў. Найбольшыя гульцы — Права і справядлівасць і Грамадзянская кааліцыя — аб'явілі сябе пераможцамі гэтага змагання. Палітолагі гаварылі пра нічыю з уканнем на Права і справядлівасць, якое выразна перамагло ў павятова-гмінным вымярэнні. Самаўрадавая кампанія 2018 года была палітычнай размінкай перад стартам выбарчага цягніка ў 2019 -2020 гады ў польскай палітыцы. Першапачаткова 26 мая 2019 года адбыліся выбары ў Еўрапарламент, 13 кастрычніка 2019 года мелі мы дачыненне да парламенцкіх выбараў, а ў маі 2020 года ўсе спадзяваліся прэзідэнцкіх выбараў. Рашэннем выбаршчыкаў у еўрапарламенцкіх выбарах Права і справядлівасць атрымала сваю першую, гістарычную перамогу, што вельмі моцна забалела Грамадзянскую кааліцыю. Стала відавочным, што наступныя выбары, якія чакалі палякаў, будуць месцам заўзятай схваткі паміж кіруючай партыяй і апазіцыяй. Кастрычніцкія парламенцкія выбары 2019 года прынеслі перамогу Праву і справядлівасці ў Сейме, затое Сенат узяла Грамадзянская кааліцыя. Для ўрада і ўсіх палітыкаў стала ясным, што ў патавай сітуацыі паміж Сеймам і Сенатам для рэалізацыі праграмы ўрада неабходна мець свайго прэзідэнта. Таму змаганне за гэты пост несла з сабою столькі эмоцый і канфрантацыі. Іх вынік гэта не толькі ідэалагічна-прагматычны выбар кожнага з нас, але перш за ўсё пытанне ці сістэма дзяржаўнага заканадаўства і кіравання змагла б вытрымаць магчымую каабітыцыйную мадэль улады. Але, здаецца, выйгрыш дзейнага прэзідэнта закрывае пакуль гэтае пытанне. Перманентная прэзідэнцкая кампанія, планаваная спачатку майскім тэрмінам выбараў, правалілася ў ходзе каранавірусных падзей і палітычнай інтрыгі Грамадзянскай кааліцыі. І калі ў маі прэзідэнт Анджэй Дуда быў ужо амаль пэўным пераможцам ужо ў першым туры, то праз два месяцы дасягнуў толькі мінімальную перамогу. Усю гэтую палітычную ліхаманку цягам двух гадоў, спалучаную з узаемазнішчэннем, маглі толькі вытрымаць гульцы самай цяжкай вагі. Калі яшчэ ў гміннай самаўрадавай палітыцы ёсць хаця невялікі адсотак шанцу для нейкіх грамадзянскіх ініцыятыў, то ў агульнапольскім вымярэнні невялікія партыі ці рухі не ў змозе падняць такога выкліку. Забетанаваная партыйнасць, найчасцей двухполюсная, гэта прыкмета большасці сучасных палітычных сістэм. І зламаць такую сістэму цяжка не толькі ў аўтарытарнай Беларусі, да якой заклікае ў адной з песень Лявон Вольскі, але і ў дэмакратычных краінах.

**Яўген ВАПА**

Настаўнікі роднай мовы

# Заўсёды чытаю „Ніву”



**Марыя ЛЕМЕШ** (у дзявоцтве Шаховіч) нарадзілася ў вёсцы Сакі, што на Бельшчыне. Закончыла беларускую і рускую філалогію ў Варшаўскім універсітэце. Дадаткова закончыла дыпломныя курсы па педагогіцы ў Беластоку. Настаўніцай працуе звыш трыццаці гадоў, цяпер у Пачатковай школе ў Орлі. Жыве ў Бельску-Падляшскім.

**— Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— Праца настаўніка цікавіла мяне з дзіцячых гадоў. А ці я думала ажыццявіць свае мары і стаць настаўніцай? Не зусім было так. Паколькі я паходзіла з вёскі, мне хацелася вучыцца ў вялікім горадзе. У Варшаву паехала таму, што там вучыўся беларускі паэт Міхась Шаховіч, мой старэйшы брат. Ён быў для мяне аўтарытэтам.

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Мой ідэал настаўніка — Ірэна Сергяюк, першая настаўніца. З беларускай літаратурнай мовай упершыню я сустрэлася ў пачатковай школе — на той час усе прадметы вяліся на роднай мове. Спадарыня Сергяюк зацікавіла мяне прыгажосцю роднай беларускай мовы і за гэта яе цаню.

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Нас, настаўнікаў беларускай мовы, няшмат. Часта сустракаемся на метадычных канферэнцыях ці беларускіх конкурсах. Заўсёды магу лічыць на дапамогу сяброваk, а ў галоўным Раісы Ваўранюк, Яланты Грыгарук, Галіны Трашчотка, Валянціны Андрасюк.

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— Найбольш супрацоўнічаю з „Нівай». А таксама заўсёды магу лічыць на дапамогу БГКТ.

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— У апошніх гадах я не вучыла беларускай мове і таму такіх праектаў не рэалізавала.

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— Конкурсы, у якіх я і мае вучні прымаем удзел, гэта „Роднае слова” і „Паэтычнае трохгалоссе”. Раней таксама рыхтавала вучняў да прадметнага конкурсу.

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— У гэтым, што дзеці ходзяць на ўрокі беларускай мовы, вялікі ўдзел бацькоў, за што ім вялікі дзякуй. Заўсёды магу разлічваць на іх дапамогу.

**— Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Вядома, што лепш працаваць, калі цэлы клас ходзіць на ўрокі беларускай мовы. Аднак тое, што гэта добраахвотны прадмет, доказ таго, што вучні маюць сапраўдную ахвоту і матывацыю, каб навучыцца роднай мове.

**— Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— Тры гадзіны гэта не так ужо і мала. Калі добра распланаваць заняткі, тады магчыма ўсё зрабіць. Трэба так планаваць урок, каб вучні з нецярплівасцю чакалі наступнага.

**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— Раней былі.

**— Ці, паводле Вас, падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— Добра было б, калі б былі навейшыя. Але таксама добра і тое, што ўвогуле ёсць з чым працаваць. Дзякую тым, што іх напісалі.

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— Не маю аднаго канкрэтнага, люблю працаваць з усімі падручнікамі.

**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— З беларускіх класікаў вельмі люблю Максіма Багдановіча. Таксама цаню творчасць „белавежцаў”, асабліва Міхася Шаховіча.

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— Час ад часу люблю вяртацца да шэдэўраў беларускай літаратуры, актуальна чытаю „Раскіданае гняздо” Янкі Купалы.

**— Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— Заўсёды чытаю „Ніву”.

**— Якая, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— Калі ёсць магчымасць, бываю на „Бардаўскай восені” і на гала-канцэрце фестывалю „Беларуская песня”.

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі па-беларуску па-за ўрокамі, школай?**

— У школе, на ўроках размаўляю на беларускай літаратурнай мове, па-за школай — на гаворцы. На жаль, усё менш дзяцей гаворыць па-свойму.

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Пэўна былі, але лепш іх не памятаць. Хай застаюцца толькі добрыя ўспаміны.

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Што так мала людзей гаворыць дома на беларускай мове.

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Многія мае вучні працуюць у розных месцах у Польшчы і пэўна за мяжой.

**— Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— Некалькі разоў атрымлівала грашовую ўзнагароду дырэктара школы.

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Мая сям'я і тое, што магу яшчэ працаваць у школе і гэтым самым далей развівацца.

**— Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Шмат такіх успамінаў. Але найбольш цаню сустрэчы з вучнямі, дарослымі ўжо людзьмі, якія пасля многіх гадоў заўсёды загавораць на беларускай мове.

**— Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— У нашай школе вісіць герб „Пагоня”.

**— Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Вельмі сумнае тое, што так мала людзей гаворыць па-беларуску. Прыкра гэта казаць, але страх выклікае тое, што за некалькі гадоў штораз менш людзей будзе валодаць беларускай мовай.

Апытальнік правяла
**Ганна КАНДРАЦЮК**

# На Яна

**7 ліпеня дзень памяці св. Іаана Хрысціцеля. Задумалася мне з'ездзіць у гэты дзень у Злотнікі, за Юхнаўцом, дзе капліца ў гонар гэтага святога. Іаан Хрысціцель нарадзіўся менавіта 7 ліпеня, роўна за паўгода да нараджэння Ісуса. За той час, з зямнога пункту гледжання, сонейка прабягае цераз шэсць сузор'яў Задыяка, а з сонечнага пункту гледжання зямелька робіць паўкруга вакол яго.**

Злотнікі, калі ехаць па беластоцка-бельскай шашы, распаложаны рубам да яе, спераду якога згаданая капліца. Пацягнула мяне туды цікавасць да веладарожкі, пракладзенай з Беластока ў Юхнавец у мінулым годзе; сеў тады на байк і паехаў.

З веласіпеда лепш відаць прыдарожны свет, чым з машыны. Вось яшчэ ў Беластоку, праязджаючы цераз скрыжаванне вуліц перад галоўнай брамай вайсковай часці, з-за вадзіцельскага пульта ўглядаешся пільна ў лабірынты амаль пастаянна перабудоўванага скрыжавання вуліц Кавалерыйскай з Цыялкоўскага і не надта бачыш больш агульную панараму. Панарама тая, дарэчы, з часам мяняецца. І вось 7 ліпеня пабачыў я, пераехаўшы тое скрыжаванне, што за ім пастаўлена новая паветка прыпынку гарадской камунікацыі. Два ці тры гады таму прыпынку там не было і я, несвядомы такой ухабіны, заехаў аж у Грыневічы, адкуль давялося вяртацца ў Беласток пяшком. Цяпер жа арганізатары гарадской камунікацыі ўгледзелі, што побач вырасла некалькі буйных жылых блокаў і прыпынак там патрэбны.

Мала гэтага — крыху далей новае канцавое кальцо аўтобуснай лініі з трыма паветкамі. Значыць, туды будуць скіраваны канцавыя прыпынкі некаторых аўтобусных ліній. Магчыма, што тых, якія былі раней каля чыгуначнага прыпынку Беласток-Стадыён, а цяпер рассеяны то ў Кляосін, то ў наваколле футбольнага стадыёна.

Новая веладарожка акуратненькая, агульна з асфальтавым насцілам, а ў Грыневічах і Лявіцкіх шпарыць яна па абодвух брусчаткавых тратуарах. Неўзабаве і Юхнавец. На плошчы перад тамашнім касцёлам інфармацыйны стэндзік пра мясцовую гісторыю. Змест даволі арыгінальны, таму прывяду яго тут поўнасцю: „Тэрыторыі, што расцягнуліся над рэчкамі Белай, Нарвай, Харашчанкай і Невадніцай, дзе села Юхнавецкая зямля, з'яўляюцца абшарам усё яшчэ фрагментарна разведаным у гістарычным плане. З X да XIV стагоддзя былі гэта гранічныя і прыгранічныя землі, на якіх цягам гадоў сутыкаліся найперш уплывы дзікіх плямён, а пасля нарадаў уключаных у рамкі дзяржаўнасці. У 1569 годзе Люблінская унія ўключыла ў Карону Падляшскае ваяводства, дагэтуль прыналежнае Літве. Такім чынам граніца, вызначаючая тэрыторыі Кароны Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага, пайшла па Юхнавецкай зямлі. У выніку падзелу ў адміністрацыйных межах Кароны апынуўся Юхнавец-Касцельны".

Падышоў да касцёла, мяркуючы, што і ў яго інфармацыйнай вітрыны будзе лісток з гісторыяй парафіі, аднак такога не было. А з другога боку закасцельны пляц з Крыжовай дарогай. І там, з задняга боку касцёла, на сходках да яго алтарнай часткі пабачыў я дзве фігуры, дзяўчынкі і хлопца — Жасінты і Франсішку Марту, якія хутка праскочылі цераз брамы гэтага свету: яна пажыла дзесяць, ён — адзінаццаць гадоў. Не ведаў я, хто яны...

З Юхнаўца ў Вульку таксама выгадная веладарожка. А з Вулькі далей — сам стрэс. Там толькі асфальт для аўтамабіляў. Спачатку прабаваў я ехаць па траўцы, што вырасла са жвіру побач асфальту, але цяжкавата. Тады з душою на плячы падаўся краем асфальту. Ёсць жа ў нас розныя вадзіцелі і здараецца прачытаць, што разагнаны самаход недзе збіў байкера. Травяністай абочыны паўтара метра і час ад часу можна на яе з'ехаць, а вось перад Белямі бакавыя металічныя бар'еры, а між імі і асфальтам калюжына ад нядаўняга дажджу. Неяк удалося дакаціцца ў Злотнікі.



■ Фігуры Жасінты і Франсішку



■ Грабніца на юхнавецкіх могілках

Заехаў пазнавата, пеўчыя канчалі Веруючаю. Народу сабралася пад сорак душ; здаецца — прыстойна, як на будзённы ў дзяржаўным святочным раскладзе дзень. І нават ларок быў з цукровымі фігурамі, пасля пяцігадовага перапынку; святар нават падкрэсліў гэтую прысутнасць. І павіншаваў прысутных Янаў, якіх аказалася дваіх. І яшчэ настаяцель Кажанскага прыхода, у якім Злотнікі, таксама Ян — Ян Койла...

Не надта хацелася мне вяртацца па нявыгаднай для веласіпеднай язды дарозе, але талковай альтэрнатывы не было. Удалося даехаць да Вулькі, а адтуль ужо без большага стрэсу. Заглянуў яшчэ на юхнавецкія могілкі, дзе прывабная воку грабніца сям'і Навіцкіх з канца XIX стагоддзя.

Вярнуўшыся дадому заглянуў я ў сеціва, пабачыць кім жа былі тыя дзеці з сям'і Марту, якіх фігуры пастаўлены пры юхнавецкім касцёле. І тут адкрылася перада мною нечакана шырокая панарама — ад Атлантычнага да Ціхага акіяна: містычна-палітычная інтрыга, пра якую шмат было ў Польшчы цягам апошніх дзесяцігоддзяў...

У 1916 годзе дзецям-пастушкам Жасінце і Франсішку Марту ды іх равесніцы Лусіі Сантуш тройчы паказаўся ангел, маліўся з імі і загадаў маліцца за дараванне ўчыненых людзьмі грахоў.

З 13 мая па 13 кастрычніка 1917 года дзецям з'яўлялася Багародзіца, перадаючы ім тры сакрэты, названыя пазней фацімскімі сакрэтамі, адначасна загадваючы не расказваць пра іх нікому. Паінфармавала, што вайна набліжаецца да заканчэння, але калі людзі надалей будуць зняважаць Бога, то ўспыхне яшчэ страшнейшая вайна. Дзеля прадухілення гэтага патрэбна даручыць Расію Беззаганнаму Сэрцу Багародзіцы. Калі так станецца, Расія абернецца ў веру, а ў свеце ўцарыцца мір. А калі не, то бязбожніцтва разліецца па свеце, выклікаючы войны і пакуты Касцёла і добрых людзей; папа таксама будзе пакутаваць. Было гэта каля мясцовасці Фаціма ў Партугаліі. Можа крыху пра назву мясцовасці...

Фаціма гэта мусульманскае імя, імя дачкі Прарока Магамета. Гэтак жа называлася і маўрытанская прынцэса часоў Рэканкісты — выгнання маўраў з Пірэнейскага паўвострава, у тым ліку і з Партугаліі. Партугальскі рыцар Эрмігеш запалоніў яе, яна ў яго закахалася, прыняла хрысціянства і выйшла за яго замуж. Калі памерла, ейны муж назваў у яе гонар сваю вёску Фаціма...

У час фацімскіх відзежаў па ўсім свеце шалела „іспанка" — эпідэмія грыпу. Дакацілася яна і да Фацімы, прыбіраючы з сабою сястрычку і брацiка ў іншы свет; Франсішку памёр у 1919 годзе, Жасінта годам пазней. Дзеці не мелі ніякай адукацыі. Лусія асталася ў жывых, пазней уступіла ў манаскі ордэн, дзе навучылася чытаць і пісаць. А ў Партугаліі ўжо раней адбываліся падзеі, якія пайшлі ў Расіі ў 1917 годзе. У 1910 годзе ў Партугаліі адбыўся дзяржаўны пераварот, у выніку якога ўладу захапілі антыклерыкалы. Пачаліся атакі на духавенства і на храмы. З краіны былі выдвараны ўсе манаскія ордэны, былі закрыты ўсе касцельныя навучальныя ўстановы, касцельную маёмасць нацыяналізавалі. Ад антыклерыкальных банд загінула ў Партугаліі больш людзей — святароў і верных, чым партугальскіх салдат на баку Антанты ў баях Першай сусветнай вайны. Антыклерыкальныя ганенні ў Партугаліі былі прыпынены ў 1918 годзе, але нарастаў эканамічны крызіс; у 1932 годзе партугальскі ўрад узначаліў Антоніу Салазар, які пакончыў з бязладдзем у краіне...

Два першыя сакрэты былі апублікаваны ў 1941 годзе. Трэцяга сакрэту Лусія не згадзілася абнародаваць; літаратура на іх конт невыразная, змест сакрэтаў быццам надалей засакрэчаны. Магчыма, што ўся істота гэтага сюжэта не ў нумарацыі сакрэтаў, а ў „даручэнні Расіі"... Па просьбе епіскапа яна запісала трэці сакрэт і ўклала ў канверт, дазваляючы яго адкрыць толькі ў 1960 годзе. Трэці сакрэт быў абнародаваны ў 2000 годзе, хаця даследчыкі сумняваюцца, ці ён сапраўдны...

Фацімскія відзежы паступова сталі займаць увагу штораз вышэйшых касцельных саноўнікаў — гэтага ў свайго біскупа пастаянна дамагалася Лусія. У 1942 годзе папа Пій XII даручыў усе народы свету Беззаганнаму Сэрцу Багародзіцы. Але пра Расію не згадваў беручы пад увагу ангажаванасць у Другую сусветную вайну шматлікіх дзяржаў. У 1952 годзе папа Пій XII адмыслова даручыў і „ўсе народы ў Расіі"; дакладней пра гэта — далей. І гэта не задаволіла Лусіі, якая патрабавала, каб даручэнне адбылося ў духовым адзінстве ўсіх біскупаў Каталіцкага касцёла. 25 сакавіка 1984 года папа Ян Павел II зноў здзейсніў абрад даручэння ў адзінстве з усімі біскупамі; спярша Лусія згадзілася з гэтым, але неўзабаве сцвердзіла, што даручэнне ўсё ж такі не было здзейснена, бо ў ходзе абраду Расія не была адмыслова названа. Лусія памерла ў 2005 годзе...

Варта тут спыніцца пры асобе польскага папы. Роўна ў 64-ю гадавіну першага відзежу дзяцей, 13 мая 1981 года на яго быў учынены замах. Уратаваўся ён таму, што ўхіліўся ў бок дзяўчынкі, якая трымала ў руках абраз Фацімскай Багародзіцы. Акрыяўшы, ён шчыльней зацікавіўся фацімскімі тайнамі, дзе гаварылася таксама пра праследаванне хрысціян, якога завяршальным пунктам мог быць замах на яго. І, мабыць, хацеў ён здзейсніць тое даручэнне Расіі Беззаганнаму Сэрцу Багародзіцы на месцы, у Расіі. Аднак ягонага візіту ў Расію не ўдалося зладзіць. Ён толькі перадаў іерархам Рускай праваслаўнай царквы Казанскую ікону Багародзіцы, якая раней была ў фацімскім санктуарыі.

Папа Ян Павел II 13 мая 2000 годзе прылічыў Жасінту і Франсішку ў лік блажэнных, а ў той жа дзень 2017 года, у сотую гадавіну першага відзежу, папа Францішак прылічыў іх у лік святых. Беатыфікайны працэс Лусіі 13 мая 2008 года запачаткаваў папа Бенядзікт XVI.

Пасланне папы Пія XII з 1952 года: „Папа прыгадвае тысячу гадоў узаемных кантактаў і складанасцей ды гуманных намаганняў яго папярэднікаў Бенядзікта XV і Пія XI для патрабуючага і галадаючага насельніцтва Савецкага Саюза. Гэтыя намаганні былі душаны боганенавісными ганіцелямі ўсіх хрысціян у іх дзяржаве. Нягледзячы на гэтыя праследаванні, у ходзе вайны ён не сказаў ніводнага нягоднага слова і, нягледзячы на моцныя націскі, ніколі не адобрыў вайны супраць камунізму і Расіі ў 1941 годзе. Ён не будзе маўчаць, калі рэлігія, праўда і закон пад пагрозай; яго найглыбейшым пажаданнем, каб народамі правілі не ваенныя сілы, але закон. Кожны мусіць прызнаць, што ён быў бесстароннім у ходзе апошняй вайны. Цяпер, калі вайна за намі, яго абавязкам не маўчаць, але асуджаць камунізм, ды гэта не абазначае, што Касцёл адкідае заблудзіўшых. Папа прыгадвае рускаму народу, што Дзева Марыя заўсёды перамажная. Брамы пекла ніколі не перамогуць, калі Яна ахінае сваёй апекай. Яна добрая маці, маці ўсіх, і ніколі не здарылася, каб той, хто патрабуе Ейнай апекі, не атрымаў яе. З гэтым даверам папа даручае ўсе народы Расіі Беззаганнаму Сэрцу Дзевы. Яна дапаможа. Усе памылкі і атэізм будуць пераможаны з Ейнай дапамогай і боскай ласкай".

Гэтае даручэнне „ўсіх народаў Расіі" было здзейснена 7 ліпеня 1952 года, на нашага Яна. Калі вернікі ўсходняга абраду святкавалі ў Нараўцы, Новай Волі, Пасынках... Магчыма, што і ў сталінскім Савецкім Саюзе, нічога не ведаючы пра іх даручэнне...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



# Спалучае мінулае з сучаснасцю

## — падляшскі стрыт-арт Аркадыюша Андрэйкава

**Сучаснай тэхнікай, характэрнай маладым творцам, размалёўвае частку мінулага жыцця. На сценах драўляных дамоў і хлявоў стварае фрэскі, якія маюць выклікаць успаміны і рэфлексію над нашай супольнасцю. Яго працы — гэта даніна простым гісторыям і звыклым людзям, якія карпатлівай штодзённасцю стваралі тоеснасць дадзенай вёсачкі.**



Фота Юркі Раецкага

Аркадыюш Андрэйкаў — мастак з Санока, які з'яўляецца стваральнікам праекта «Маўклівы мемарыял». Артыст размалёўвае фрэскі на старых хлявах і хатах на Падкарпацці. Андрэйкаў натхняецца архіўнымі сямейнымі фотаздымкамі былых жыхароў вёсак. Свае працы стварае з пашанай да навакольнай прыроды і драўлянай архітэктуры. Яго фрэскі можна ўбачыць на Падкарпацці, у Жэшаве, а зараз таксама на Падляшшы. Першая праца Андрэйкава паўстала ў мясцовасці Дубна. Мураль, які ўзнік на адным з драўляных будынкаў, быў інспіраваны здымкам вядомага падляшскага фатографа Юркі Раецкага.

— Гаспадар будынка вельмі добра ведаў Юрку Раецкага, — кажа мастак Аркадыюш Андрэйкаў. — Фатаграфія сапраўды была выдатная і добра пасавала менавіта да гэтага месца. Здымак Юркі Раецкага можа больш сучасны ў параўнанні з гэтымі, якімі я інспіраваўся, ствараючы муралі на Падкарпацці, але вельмі трапна паказвае звычай мясцовых людзей, якія часта сядзелі на прывулічных лавачках. Найчасцей людзі дасылаюць мне некалькі фатаграфій, з ліку якіх я магу выбіраць тую, якая пасуе да наваколля, да сцяны. Працую на аснове здымка на адной сцяне стадолы ці хаты. Раней раблю візуалізацыю на камп'ютары — гэта ўсё раней трэба падрыхтаваць і абдумаць. Можа некаму здавацца, што мае фрэскі спантанныя, але кожную з іх папярэджвае падрыхтоўка. Усё раней трэба абдумаць і запраектаваць.

Мастак на драўляных вясковых будынках размалёўвае людзей, якія часта ўжо адышлі з жыцця. Заўсёды стараецца, каб яго працы былі сугучны з наваколлем.

— Я шукаю нешта іншае, — прызнаўся «Ніве» Аркадыюш Андрэякаў. — Для мяне сцяна з нейкім колерам і знакам часу значна цікавейшая за белае палатно, якое нічога не прыносіць, бо гэта страшная пустэча. Я перакананы, што малюнак на старой дошцы пачаў фарміравацца вельмі даўно. Я стараюся персанажы змешваць з фонам. У маім выпадку частка працы зроблена прыродай. Дзякуючы гэтаму ў мяне больш творчай свабоды, мне не трэба турбавацца нацёкамі, таму што састарэлая дошка выдатна прымае фарбу. Я нічога не прыкрываю і не забяспечваю. Я распрацаваў метад, дзякуючы якому я маю кантроль над фарбай ці спрэем. Дзякуючы гэтаму героі, якіх я ствараю, натуральна пранікаюць у дошку.

Аркадыюша найчасцей запрашаюць самі гаспадары, якія фрэскам хочуць аддаць належную памяць нейкаму абраду ці звязанаму з вёскай чалавеку. Мастак размалёўвае гісторыі, якія фарміравалі дадзеную супольнасць. Заўсёды яго працу суправаджае вялікае парушэнне мясцовых людзей.

— На Падляшшы мясцовыя стараліся пазнаць некаторыя асобы, — распавядае мастак. — Часта бывае так, што ўспыхае такая інфармацыйная бура, людзі падыходзяць, дапытваюцца, хто гэта можа быць на здымку, раяцца старэйшых суседзяў. Гэта таксама выклікае пазітыўныя ўспаміны з даўніх часоў і ствараецца такія новыя адносіны паміж людзьмі. Мне здаецца, што гэта спалучае пакаленні. Стрыт-арт — новая галіна мастацтва, якая прыцягвае маладое пакаленне, але адначасова, карыстаючыся старымі здымкамі і гісторыямі, ствараецца нейкі мост паміж мінулым і будучым. Перш за ўсё ў сябе, на Падкарпацці, дзе карані таго праекта, гэта вельмі моцна відаць. Я не шукаю ў гэтых мясцовасцях выдатных постацей, заслужаных людзей, толькі найбольш мяне цікавяць звычайныя героі, якія пераадольвалі праблемы штодзённага жыцця. Дзякуючы таму, што пасля цікавяцца гэтымі працамі СМІ, тыя звыклыя гісторыі пачынаюць быць заўважанымі і важнымі.

Прац Аркадыюша Андрэйкава ў Польшчы каля пяцідзесяці. На Падкарпацці, дзе знаходзіцца найбольш прац мастака, людзі фатаграфуюцца не толькі на фоне фрэскі, але таксама з гаспадарамі будынка, на якім узнікла праца. На Падляшшы незвычайныя фрэскі ўзніклі яшчэ ў Кнарыдах, што пад Бельскам-Падляшскім і ў Сітаўцы пад Янавам. Тут мастак сваю фрэску прысвяціў вясковым гаспадыням, якія аб'ядналіся ў Гуртку вясковых гаспадынь прыцягваюць чарговыя пакаленні. Ужо наступнага дня жанчыны з гуртка паганарыліся на фейсбуку незвычайным фрэскам і госцем.

— Так выглядае наша новая карціна, якая будзе вітаць усіх, хто едзе ў нашу вёску з Янава, — чытаем на фейсбуку Гуртка вясковых гаспадынь з Сітаўкі. — Мы вельмі ганарымся і шчаслівыя, што Аркадыюш Андрэйкаў наведаў нас і фотаздымку з васьмідзясятых гадоў надаў вялікі і незвычайны фармат. Успаміны ізноў ажылі, маладое пакаленне нашай вёскі пазнала частку нашай гісторыі, звязаную з фатаграфіяй. У нашай старонцы няма такой формы мастацтва, таму мы спадзяемся, што будзем прыкладам для іншых, і такія фрэскі стануць папулярнымі і будуць ствараца больш. Запрашаем у Сітаўку!

Сам аўтар меў пабываць на Падляшшы толькі адзін дзень, аднак сустрэтыя людзі, архітэктура і прырода затрымалі яго на даўжэй. Мастак сцвердзіў, што Падляшша яго інспіравала і ў будучыні напэўна яшчэ сюды вернецца.

— Мяне захапляе факт, што на Падляшшы так многа драўлянай архітэктуры, — адзначыў мастак. — Першы мураль я ствараў на старой хаце ў мясцовасці Дубна і я звярнуў увагу на гэта, што навокал будынка было яшчэ шмат драўлянай пабудовы, дзе можна было б мне творча «пашалець». Прыемна было пераканацца, што людзі клапоцяцца аб драўляныя будынкі. Калі гаварыць пра маю творчасць, я прыкмеціў, што сапраўды на Падляшшы дрэмле вялікі патэнцыял. Першага дня я пазнаёміўся з Юркам Раецкім, які падарыў мне свой альбом. Нават ужо разам падумалі, што варта было б яшчэ сустрэцца ў будучыні, каб узнікла больш мураляў з героямі яго фатаграфій. Я адразу яму прызнаўся, што вельмі добра працаваць з яго здымкамі. Юрка аб гэтым ведае, бо ўжо дзясяткі людзей малявала абразы на аснове яго здымкаў. Пабачым, можа неўзабаве зноў сустрэнемся на Падляшшы.

Уршуля ШУБЗДА

## Вынікі трэцяга набору

Сумесная маніторынгавая камісія (WKM) праграмы зацвердзіла вынікі трэцяга конкурсу прапаноў па праграме „Польшча — Беларусь — Украіна". Набор датычыў мікрапраектаў (суфінансаванне праектаў складае да 60 000 еўра) і быў праведзены ў рамках тэматычнай мэты „Спадчына".

Сумесная маніторынгавая камісія прыняла рашэнне аб суфінансаванні 26 праектаў і стварыла рэзервовы спіс з 11 праектаў для магчымых будучых кантрактаў. Пераможныя заяўкі прыходзяць з 12 кваліфікаваных рэгіёнаў Праграмы. Агульная сума атрыманага фінансавання складае 1,47 млн. еўра. Усяго на конкурс было пададзена 178 заявак.

Сярод партнёраў праекта, якія атрымаюць фінансаванне, ёсць арганізацыі і з Падляшскага ваяводства: між іншым Гарадскі цэнтр культуры, спорту і адпачынку ў Кляшчэлях і Асацыяцыя спадчыны Падляшша; Гайнаўскі Дом культуры і Асацыяцыя мясцовых самаўрадаў Еўрарэгіёна Белавежская пушча; гміна Саколка, Клуб Сеніёр + у Чаромсе (на супрацоўніцтва для сумеснага развіцця сумеснай мясцовай трансгранічнай культуры і гісторыі Польшчы і Беларусі — 44 772 злотых).

У рэзервовы спіс уваходзяць праекты партнёраў з Падляшша, якія таксама маюць магчымасць прафінансаваць праекты пры ўмове наяўнасці ў праграме сродкаў. Між іншым гэта Добраахвотніцкая пажарная каманда ў Гайнаўцы і гміна Саколка.

Сумесны тэхнічны сакратарыят пачне працэдуру пацвярджэння права на выбраныя заяўкі. Наступным этапам будуць праекты па заключэнні кантрактаў — яны будуць завершаны на працягу максімум шасці месяцаў.

Праекты, якія рэалізуюцца ў рамках праграмы „Польшча — Беларусь — Украіна", дазваляюць развіваць супрацоўніцтва паміж нашым рэгіёнам і партнёрамі ў асноўным з Гродзенскай і Брэсцкай абласцей у Беларусі. У выніку канчатковага набору гэта супрацоўніцтва накіравана на папулярызацыю мясцовых традыцый і культуры, а таксама на папулярызацыю і захаванне прыроднай спадчыны. **(лук)**

## Бар „Там"

Зараз зноў пачаў ездзіць аўтобус ПКС на шляху з Гайнаўкі ў Беласток цераз Нараўку, Бандары, Міхалова і Жэдню. Я зноў наведваю Беласток і рэдакцыю „Нівы". Паабедаць іду ў бар „Сонечны" або „Там". Яны ў цэнтры горада.

У Беластоку былі два бары „Там". Адзін у зручным месцы каля аўтобуснага вакзала ПКС. Яго ліквідавалі тады, калі пачалі пабудову новага будынка ПКС. Астаўся адзін на вуліцы І. Бялуўны. У ім 20 месцаў. Ён адкрыты ад гадзіны 9 да 23. У бары прыемна і прыгожае абсталяванне, мэбля, люстры.

Я найчасцей заказваю набор абедзенных страў (ён з мясам, бульбайфры і салатам), каву або чай. Ёсць выбар страў, між іншым, бульба-фры, тарціла, кебаб, хот-дог, запяканкі. Можна заказаць яечню або нешта іншае чаго няма ў меню. **(яц)**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

Зорка
для дзяцей і моладзі

# А што трэба зрабіць, каб стаць лётчыкам?





— Раскажы мне яшчэ раз пра прапрадзеда і прапрабабулю!

Хлапчука захапіла гісторыя пра стрыечную прапрабабку Анастасію, якая стала лётчыкам і з-пад нябёс ваявала з фашыстамі. Яна ў той момант здалася нават важнейшай за футбаліста Месі. Усе чарговыя дні на Падляшшы Юлік узіраўся ў неба і глядзеў на самалёты. А пасля пытаў у бацькоў:

— А што трэба зрабіць, каб стаць лётчыкам?

З гэтага аповеду відаць, што варта слухаць дзядоў і бабуль, цікавіцца гісторыяй сям'і. Варта таксама з'ездзіць з бацькамі ці сваякамі ў месцы, дзе жылі вашы прадзеды. Можа і вас як Юліка прывітаюць там буслы і сустрэне натхненне.

**Ганна Кандрацюк**

Мы любім дзядуляў і бабуль. Без іх наш свет быў бы нейкі цесны, звычайны. Гэта яны заварожваюць нас аповедамі і разбуджваюць зацікаўленні.

Юлік Краўчонак хоча быць як Ліанэль Месі. У свет футболу ўвёў яго дзядуля Юрка. Разам хадзілі на футбольныя матчы і спаборніцтвы па спідвеі («жужлі»), якімі славіцца Зялёна-Гура. Сёння дзядулі няма ўжо ў жывых, аднак Юлік далей захоплены спортам. Кожны дзень, пасля ўрокаў ён гуляе ў футбол. Праўда, адзін трэнінг — яму мала. Хлапчук чытае ўсё пра футбол і спідвей. Няма ў сям'і разумнага, каб зашахмаціў яго ў спартовых ведах.

Добра, калі актыўнасць і веды ідуць у пары. У Юліка гэта спрацавала на медаль. Адразу пасля прыезду на Гайнаўшчыну хлапчук пачаў ганяцца ўслед буслоў. Птушкі падыходзілі да яго і лапаталі крыллем, кружылі, клекаталі. І Юлік, як сапраўдны футбаліст, прадбачваючы іх намеры, плаўна кружыў між буслямі ды іх не палохаў. Пасля гэтага ён сядаў на ровар і гнаўся палявымі дарогамі ажно да лесу, каб падзяліцца са светам сваёй жыццярадаснай энергіяй.

Хлапчук яшчэ не ведаў што на зямлі продкаў сустрэнуць яго сюрпрызы.

Найбольшае здзіўленне чакала яго на могілках у Ласінцы, калі родныя паказалі яму магілкі прапрадзедаСцяпанаі прапрабабулі Стэфкі. Дзед Юліка — Юрка быў захоплены сваім дзедам Сцяпанам. У сям'і гаварылі, што яны падобныя да сябе як дзве кроплі вады. Гарадскому ўнуку ў вёсцы адразу прышпілілі мянушку дзеда, які ў сваю чаргу насіў мянушку свайго бацькі, то-бок прапрапрадзеда Юліка...

Падарожжы ў глыб радаслоўнай нярэдка збіваюць з пантылыку. Такое адбылося на магіле таго ж славутага прапрапрадзеда, ад якога пайшла мянушка роду. Пархвен Кандрацюк нарадзіўся ў палове XIX стагоддзя. Ён служыў у царскай арміі звыш дваццаці гадоў. За гэта атрымаў надзел зямлі і здабыў прэстыж у вёсцы. Ён як адзін з нямногіх не падаўся ў бежанства, таму і захавалася яго магілка. Гісторыя гэтага продка, якая сягала ў глыб пяці пакаленняў, здалася для Юліка фантастычнай. Такія аповеды можна пачуць на Каўказе, а не ў Зялёнай-Гуры. Яго сябры рэдка памятаюць сваіх прадзедаў. Сказаць каму пра прапрапрадзеда — гэта неверагодна, цудоўна...

Пасля могільніка мы наведалі яшчэ курганы, якія знаходзяцца побач некраполіі. Юлік быў настолькі ўражаны аповедам пра ваяра, якога пахавалі з канём у кургане, што замоўк і нешта думаў. Але на другі дзень ён прасіў у сваёй мамы:

*Міра ЛУКША*

## Парэчкі

Над нашай рэчкай
на ўрочышчы Марушка
раслі парэчкі
непраходнай гушчай.

Чорныя, чырвоныя,
жоўтыя і белыя.
Смачныя, ядроныя,
вітамінна-спелыя.

Каранямі ўпіліся
ў зямельку родную,
стагоддзямі ўвіліся
ў дрэвы надводныя.

Кветкі араматныя
і травы мурожныя
пахамі выдатнымі
дых нам заварожвалі.

Падступіла возера
пад Марушкі сховішча.
Абхапіла лозамі
парэчак становішча.

Іду я па ўрочышчы,
і смакаў дзяцінных,
што ўва мне вырошчаны,
што жывуць ва ўспамінах

шукаю, слухаю і плачу,
у травах крок за крокам,
каб зноў шчасце значыць
парэчкавым сокам.

**УВАГА КОНКУРС! № 29-20**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 26 ліпеня 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Я зацвітаю кожным летам
не пышным —
ледзь прыкметным цветам.
Але як толькі зацвіту,
дык пчолы чуюць за вярсту.
Л...

(Васіль Жуковіч)

**Загадкі з роднай хаткі**

Адказ на загадку № 25: суніца. Узнагароду, кашульку з лагатыпам «Сустрэч Зоркі», выйграў Матэвуш Касіянюк. Віншуем!

# Міфы старажытных беларусаў


Фота ГК

**ПЕВЕНЬ** — старажытныя беларусы ўспрымалі пеўня як сімвал сонца. Ён увасабляў жыццёвыя сілы і ўраджай. Яго выявы часта змяшчалі на хатах і куфрах, вышывалі на ручніках і посцілках.

Паводле адной легенды, пеўня стварыў анёл, які паспрачаўся з д'яблам, хто з іх злепіць найпрыгажэйшую птушку. Д'ябал стварыў паўліна, але певень прагнаў яго з нашай староннкі сваім гучным спевам.

Як і сонца певень адлічваў час, кукарэкаў на мяжы ночы і дня, вітаў усход сонца. З птушкай звязвалі сімволіку вечнага аднаўлення жыцця і ўваскрэсення з мёртвых.

У народзе верылі, што ў пеўня вялікі гонар і годнасць. Гэта падкрэслівалася ў загадках такіх як «Ходзіць цар па гародзе...».

Нашы продкі лічылі, што пеўневы спеў абвяшчаў наступленне новага дня і разганяў цёмныя сілы, якія вандравалі ноччу па вёсках і пасёлках. Да першага спеву пеўня нельга было адпраўляцца ў дарогу, каб нячысцікі не рабілі спакус і перашкод. Месца, дзе ўжо не чуваць спеву пеўня, лічылі чужой, варожай прасторай.

Певень быў важным элементам народнай медыцыны. У час першага спеву знахары высылалі збіраць зёлкі, а ў замовах адсылалі (дзеля бяспечнага развеяння ў прасторы) хваробы.

У народзе пеўня спалучалі з культам дамавіка. Яго запускалі першым у новую хату, каб туды перасяліўся апякун хаты. Калі певень пачынаў спяваць, значыла, што ў хаце будзе добра і весела. Каб ніва добра радзіла, пеўня абносілі вакол яе.

Чырвонага пеўня звязвалі з сонцам, агнём і пажарам. Чорнага, наадварот, з падзямельным светам, чарамі і варажбой. Чорны колер падабаўся духам вады, таму мельнікі такіх пеўняў заўсёды трымалі пры млыне.

З птушкай звязаныя многія фантастычныя казкі і былі. Адна з іх апавядае як чорны певень знёс яйка, насіў яго пад крылом, а пасля пад паху гэтае яйка схаваў гаспадар. З яго пасля дзевяці месяцаў вылупіўся змей. Ён паказаў гаспадару, дзе закапаныя скарбы.

На Падляшшы лічылі, што калі ў гаспадарцы сустрэнуцца чорны певень, чорны сабака і чорны кот — гэта прывядзе да вялікага багацця і ўдач. Чорная тройца задбае, каб увесь прыбытак не захапілі зайздросныя людзі, якія з дапамогай чараў будуць пераймаць багацце.

На Гомельшчыне пры дапамозе пеўня выклікалі дождж. Ноччу ім «аралі» вуліцу ўпоперак: хлопцы і дзеўкі цягнулі плуг, а другія ўперадзе неслі пеўня. Рытуал спаўнялі на зломе ночы і дня, калі кукарэкаюць пеўні.

*(Адрэзак на аснове «Беларускай міфалогіі для дзяцей»)* **гак**

# Салатка з парэчак — дэсерт які падносіць настрой у разгары лета



Сёння прапануем вам салодка-кіслы дэсерт на базе свойскіх прадуктаў. Гэта таксама рэцэпт з «Беларускай кухні» аўтарства Юры Качука.

Паколькі якраз сезон на парэчкі, найлепш пакарыстацца свежымі пладамі, проста з агарода. Недаацэненыя многімі парэчкі заварожаць вас не толькі арыгінальным смакам, гэта яшчэ і мегавітамін. А морква паспрыяе загаранню і дабраму, канікулярнаму настрою.

**Складнікі:**
*4 морквы,*
*1 шклянка (250 грам) чырвоных або жоўтых парэчак,*
*1 шклянка смятаны або густога ёгурту.*

Моркву нацерці на буйнай тарцы, змяшаць з абранымі з гронак і памытымі ягадамі парэчак і смятанай. Страву рэкамендуем есці з аладкамі з кабачкоў. Яна падыходзіць таксама да страў з курацiны i качкі, варыўных катлетак, а таксама як самастойны дэсерт.

**Аладкі з кабачкоў**
*1 кабачок,*
*1 цыбуля,*
*2 яйкі,*
*3 лыжкі нацертай булкі,*
*соль і перац да смаку,*
*3 лісткі зялёнага шалфею.*

Кабачок і цыбулю нацерці на буйнай тарцы, дадаць булку і яйкі, прыпраўвіць шалфеем, соллю і перцам. Змяшаць і смажыць на глыбокім алеі. У гэты раз аладкі паспрабуйце з прапанаванай намі салаткай з парэчак.

Смачна есці!

*(гак)*

# Польска-беларуская крыжаванка № 29-20

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Staż | Nurek | | Baoab | | |
| Tratwa | | Kożuch | Stado | | | | | | |
| | Jucha<br>Chmura | | Ręka | | | | | | |
| | | | | | Ateny | | Piękno | | |
| | Żuczek<br>Jury | | | | | | | | Aura |
| Żuk | | | | Farba | | | | | |
| | | | | Jar | | | | | |
| Mucha | | Wybory | Jan | | | Iza | | | |
| | | | | | | Ada | | | |

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 25-20:**
Прысмак, яр, каса, гром, міф, грыва, Ада, грыбы, рэ, лапата, як, цуд, клапіна, здача, рыс. Пяро, глузд, рад, грып, рыбалка, сковыт, мама, авал, Ас, камар, пір, ідэа, шафа, клас.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Лена Снарская** і **Юля Гаворка.** Віншуем!

# Гады арлянскага росквіту

Найлепшыя гады пасляваеннага росквіту Орлі былі пры г.зв. камуне — 1980-я, а дакладней між канцом 1970-х і пачаткам 1990-х. У пачатку таго перыяду былі здадзены ў карыстанне новыя будынкі: Гмінная управы ды комплекс гезсаўскіх будынкаў: офіс, пякарня, мясарня, склады збожжа і фертылізатараў, да таго ж дзве вялікія крамы: канфекцыйная і прыбораў хатняга гаспадарання. Былі пачаты рамонты найважнейшых помнікаў даўніны (частковы сінагогі і капітальны прыходскай царквы), а таксама многія новыя будоўлі — жыллёвага кааператыва і асяродка здароўя (абедзве распачатыя і закінутыя), вялікая школа, жылы блок для настаўнікаў а таксама мураваная капліца ў гонар св. Сімяона Стоўпніка. Былі і больш аграмадныя інвестыцыйныя перспектывы — керамічны завод і вадаём на Арлянцы. У народзе гаварылася, што Орлі будзе вернута гарадское права. Трэба адзначыць, што ў той час у гміне і ў самой Орлі было амаль удвая больш насельніцтва — у 1988 годзе 4891 жыхар, а ў самой Орлі амаль дзве тысячы; неўзабаве столькі ж будзе ў цэлай гміне. Таксама тэрытарыяльна гміна была буйнейшая (у 1995 годзе з Арлянскай у Бельскую адышла вёска Крывая з навакольнымі грунтамі).

У 1989 годзе, з надыходам палітычных і гаспадарчых перамен, час тут быццам спыніўся — людзі сталі тужыць за мінулым — большасць распачатых пабудоў была спынена, а пра планаванне новых перасталі і думаць. Спыніліся аддзелачныя працы ў новай школе — пасля нейкіх ператусовак завяршэннем прац занялася гміна. Будова трохпавярховага жылога прышкольнага блока, якая пачалася ў 1988 годзе, была завершана ў кастрычніку 1999 года. Жыхары Орлі былі пераканаены, што калі б не пачалі гэтых будоўляў (апрача царкоўных) пры ПНР, то і пры дэмакратыі іх пэўна не пачыналі б. А калі б ПНР утрымалася даўжэй, то ўсе запланаваныя аб'екты былі б завершаны.

Кожная інвестыцыйная задача гэта тэма на асобны артыкул. У гэтым матэрыяле хачу прадставіць развіццё царкоўнага будаўніцтва ў нядаўнім мінулым.

**Вакол царкоўнага будаўніцтва**

Успамінаў мне ў 1999 годзе настаяцель Арлянскага прыхода а. мітрат Аляксандр Такарэўскі:

— У складаны для Царквы час ПНР правёў я, пасля ўзгаднення з ваяводскім захавальнікам даўніны, капітальны рамонт двухсотгадовай царквы, якая — літаральна — урасла ў зямлю. Храм разабралі ў пачатку 1979 года, выканалі новыя фундаменты, пасля чаго зрэканструявалі ў ранейшым выглядзе, крыху ўзбуйняючы. 8-9 кастрычніка 1981 года храм нанава ўрачыста пасвяцілі.

***

У час рамонту царквы, а дакладней калі храм узводзілі нанава, можна было ад некаторых пажылых людзей пачуць пра тое, што рабочыя знайшлі пад падлогай царквы. Мне пра гэта расказаў Мірэк Васілеўскі, 1967 года нараджэння, які бачыў гэта навочна. (Ягоны бацька Владэк тады ў парадку ахвярапрынашэння канструяваў і заліваў высокія бетонныя калоны ў царкве, калі яе абнаўлялі ў 1980 годзе). Вось калі храм разабралі, работнікі, капаючы ўсярэдзіне каля фундаментаў, выпадкова наткнуліся на дамавінку, памаляваную сіняй фарбай. Было гэта больш-менш у тым месцы, дзе зараз прадаюцца свечкі. Ад пакойніка — была гэта дзевяці-дзесяцігадовая дзяўчынка — захаваліся касцяк і вопратка: белая блузка, чорная спаднічка, боты і рыжаватыя валасы заплеценыя ў косы. Работнікі закрылі века дамавінкі і прысыпалі пясочкам; і яна надалей спачывае пад падлогай арлянскай царквы. Можна меркаваць, што пад храмам магло быць і больш пахаванняў, але таго тады не правяралі.

Гадаю, хто мог здзейсніць такія пахаванні ўнутры храма. Ну, мабыць, ніхто іншы, як тадышні настаяцель з дапамогай даверных людзей. І магло гэта адбыцца яўна. Такі быў час, а няпісаны прынцып, што не ўсе людзі роўныя, захоўваецца і сёння.



■ Капліца св. Сімяона Стоўпніка ў Орлі

Другая справа, што гэта па каталіцкаму ўзору, дзе пад старымі касцёламі часта знаходзяцца катакомбы, куды хавалі заслужаных святароў і іх сямейнікаў. А арлянскі храм быў калісь уніяцкім. Калі б праверыць архіўныя дакументы — калі такія захаваліся — можна было б дакладна выявіць, чыё там пахаванне.

І адносна рамонтных прац — арлянскія мужчыны з задавальненнем хвалілі нашага бацюшку. Гаварылі, што ён такі спецыяліст, што нават павучаў майстроў, як правільна ўбіваць цвікі, г.зн. не вертыкальна, а наўскос, бо тады лепш трымаюць.

У час амаль трохгадовага капітальнага рамонту ў храме ў цэнтры Орлі не правіліся набажэнствы. І што ж тады з царкоўнымі шлюбамі? Добра памятаю такое здарэнне. Калі пачынаўся рамонт, я акурат выйшаў з войска. І зразу стаў іграць у новым калектыве гітарыстаў; у войску я таксама граў. І прыйшлося граць у 1979 годзе на вяселлі ў Орлі. Маладая пара брала шлюб у могільнікавай царкве свсв. Кірылы і Мяфодзія. Мае сябры, музыканты з Гайнаўкі, спачатку былі такім ходам спраў здзіўлены. Ну, але тады мы не гралі вясельнага марша ідучаму на могілкі шэсцю. Здаралася, што не ўсе маладыя хацелі браць шлюб „на могілках”.

У складаны для Царквы час настаяцель а. мітрат Аляксандр Такарэўскі ўпарадкаваў таксама могільнікавую царкву свсв. Кірылы і Мяфодзія, а раней упарадкаваў могілкі — абгарадзіў мурам з белай цэглы. Зараз невялікі адрэзак агароджы з заходняй стараны ўвесь час чакае рамонту; прыхаджане стаўляюць дарагія намагільнікі, а ў агароджы многа праломаў, праз якія могуць заходзіць, напрыклад, каровы з суседняй пашы...

Пры драўлянай плябаніі быў пабудаваны катэхетычны пункт і адрамантаваны астатнія прыходскія будынкі: плябанія, арганістаўка, гаспадарчыя будынкі. У прыходскай царкве быў пазалочаны іканастас і ўсе ківоты, паявіліся новыя іконы. У 1995-2005 гадах была пабудавана новая плябанія. Названыя работы гэта заслуга не толькі настаяцеля, але таксама мясцовых прыхаджан і членаў прыходскай рады.

Трэба таксама ўспомніць і пра заслугі мясцовага гміннага самакіравання, якое ахвотна перадало некалькі ўчасткаў у карысць праваслаўнага прыхода, а войты атрымлівалі царкоўныя ордэны; католікам — апрача перададзенага ў 2002 годзе на капліцу будынка старой школы — такой прыхільнасці не было; аб гэтым я добра ведаю, бо цягам шаснаццаці гадоў быў гмінным радным.

***

У 1991 годзе настаяцель пачаў будаваць пры вуліцы Бельскай новую мураваную капліцу ў гонар св. Сімяона Стоўпніка. (Даўней у тым месцы стаяў храм св. Іаана Багаслова. Цяперашняя царква св. Архангела Міхаіла ў цэнтры Орлі стаіць на месцы царквы св. Сімяона Стоўпніка, якая згарэла ў пажары каля 1794 года.) Адным з майстроў, якія будавалі новую капліцу, быў Ян Бобік з Крывятыч.

***

Мінулае Орлі такім чынам шчыльна звязана з культам св. Сімяона Стоўпніка, сірыйскага манаха-аскета з V стагоддзя. Кім быў Сімяон Стоўпнік, заступнік арлянскай капліцы пры Бельскай, а ў мінулым царквы на Брэсцкай (сёння Кляшчэлеўскай)?

Паводле гістарычных крыніц, нарадзіўся ён каля 389 года ў Сірыі, у сялянскай сям'і. У дванаццацігадовым узросце падаўся ў манастыр і ў васямнаццаць гадоў прыняў пострыг. У пошуках глыбейшага аскетызму дзеля дасягнення дасканаласці і прыбліжэння да Бога (манаскае жыццё не задавальняла ягоных спадзяванняў), Сімяон уступіў на невядомы да таго часу шлях — жыццё на змацаванай на стаўпе платформе. На шторах вышэйшых стаўпах пражыў ён 37 гадоў. Памёр Сімяон Стоўпнік Старэйшы ў 459 годзе. (Сімяон Стоўпнік Малодшы, народжаны ў Антыёхіі ў 521 годзе, правёў на стаўпе ў сваім горадзе аж 68 гадоў, да смерці ў 597 годзе.)

Стоўпніцтва, запачаткаванае ў Сірыі, было асаблівай з'явай у гісторыі Царквы. На Захадзе яго не было, на Блізкім Усходзе існавала да XII, а ў Расіі да XV стагоддзя. Прадстаўляла жывую праяву хрысціянскай веры і ўзор найчысцейшай маралі. Стаўпы станавіліся свайго роду крыжамі...

Стоўпнікі ішлі на вялікія самаадрачэнні, м.інш. у харчаванні. Сімяон Старэйшы прымаў ежу раз у тыдзень. Ягоны стоўп стаў незвычайнай кафедрай, месцам, куды спешылі паломнікі з Азіі, Еўропы і Афрыкі. Многія прымалі хрысціянства. Многія паломнікі рашалі назаўсёды аставацца пад ягоным слупам. З часам вакол узнікалі манастыры...

У канцы V стагоддзя, па загадзе імператара Зянона, быў там збудаваны сакральны комплекс у форме крыжа з чатырох храмаў. У цэнтральным месцы астаўся каменны слуп, тады вышынёю звыш 15 метраў, а зараз толькі паўтара метра (асколкі паразбіралі паломнікі і турысты). Па тамашнім сакральным комплексе асталіся велічныя каменныя руіны: аркі, апсіды, выкаваны ў скале алтар з багатым арнаментам.

Святы Сімяон Стоўпнік, апрача Орлі, быў заступнікам храмаў у Брэсце, Камянцы і Браньску. У 1727 годзе драўляная царква з адным купалам была ўжо прынішчана часам. У час пажару ў 1794 годзе ўцалела з яе толькі цудатворная ікона Багародзіцы і чашы.

Збудаваную прыгожую мураваную капліцу ў гонар св. Сімяона Стоўпніка — на старым цэрквіску, дзе стаяла замкавая царква св. Іаана Багаслова — 16 ліпеня 1995 года пасвяціў мітрапаліт Васілій.

Штогод у першую нядзелю пасля Вялікадня адбываецца ў Орлі традыцыйнае шэсце на старое цэрквіска да магіл загінуўшых у Першую сусветную вайну рускіх і нямецкіх салдат, дзе адпраўляецца паніхіда.

26 красавіка 1998 года, пасля багаслужэння ў Міхайлаўскай царкве, хрэсны ход выйшаў на вуліцу Бельскую. У Сімяонаўскай капліцы настаяцель а. Аляксандр Такарэўскі адправіў паніхіду, а пасля прывітаў прыхаджан радасным „Христос воскрес!” і сказаў:

— Вельмі прыемна, што маем куды прыйсці і дзе спыніцца. Гэтае месца ў свой час, на працягу многіх гадоў, было забыта зусім, а цяпер гэтая невялікая цудоўная царкоўка ўпрыгожвае месца, на якім калісьці стаяў праваслаўны храм. Побач спачываюць воіны і мы сёння прыйшлі памаліцца, каб Гасподзь быў міласэрны ў адносінах да іх душ, каб Гасподзь не пазбавіў іх нябеснага свайго царства. Што мы можам сказаць ім на развітанне? Можам паўтарыць хаця б словы паэта: „Спите орлы дорогие, спите спокойной душой, вы заслужили, родные, славу и вечный покой”.

***

Магілы жаўнераў з Першай сусветнай вайны знаходзяцца на старым абгароджаным цэрквіску і на суседнім участку. У 1960-х гадах гэты ўчастак належаў Школе сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, а ў канцы 1980-х гадоў Гмінная ўправа пачала там закладаць абшырныя фундаменты пад новы асяродак здароўя. Калі работнікі капалі, то ў зямлі натрапілі на чалавечыя косці. Астанкі сабралі ў скрыню і пасля закапалі недзе на могілках, верагодна пад плотам.

Кім былі жаўнеры Першай сусветнай вайны? Гэтая тэма быццам сышла на другі план у гісторыкаў. Я ў ходзе сваіх пошукаў на месцы даведаўся некаторых падрабязнасцей пра нямецкіх салдат. Вось недалёка, пры разгалінаванні дарог з Орлі ў Рудуты і Дубічы-Царкоўныя, знаходзіцца брацкая магіла немцаў з Першай сусветнай вайны. Недзе каля 2000 года, верагодна ў пошуках кладоў або амуніцыі, нехта спрафанаваў месца вечнага спачынку. Раскапана была адна з магіл. Некалькі вялікіх людскіх касцей, боты, ляжалі доўгі час на паверхні. Побач зрабілі дзікую звалку. Зараз гэтае месца астаецца ў спакоі, побач расце лес. Як я даведаўся, адкапалі тады заржавелы карабін і апраўлены ў шкле добра захаваны здымак жаўнера ў мундзіры; магчыма, з другой стараны было люстэрка. Тады я думаў, што гэта можа быць здымак памерлага. Але толькі цяпер разгадаў я, хто на тым здымку. А быў гэта здымак Вільгельма Гогенцолерна (1882-1951), апошняга наследніка трону, кронпрынца Прусіі і Германіі, сына кайзера Вільгельма II і Аўгусты Вікторыі фон Шлезвіг-Гольштэйн-Аўгустэнбург. Удзельнічаў ён у Першай сусветнай вайне як афіцэр. Чаму паўшы жаўнер меў пры сабе ягоны здымак? Мабыць, жаўнеры мелі пры сабе такую рэч; магло б гэта быць і люстэрка з партрэтам афіцэра на адвароце. Магчыма, што той афіцэр быў нейкім камандзірам, а магчыма, што палеглы жаўнер быў нават сямейнікам Вільгельма...

На старое цэрквіска ўрачыстае шэсце другі раз ідзе ў чэрвені, у найбліжэйшую да дня св. Сімяона Стоўпніка нядзелю, абыходзячы капліцу хрэсным ходам.

У гэтым месцы, якое распалажана насупраць школы, адбываюцца ўрачыстыя набажэнствы з нагоды пачатку і заканчэння навучальнага года.

І так, дзякуючы намаганням былога настаяцеля Арлянскага прыхода, а. мітрата Аляксандра Такарэўскага, новаўзведзеныя будоўлі надалей узбагачаюць рэлігійнае жыццё, упрыгожваюць ландшафт Орлі і радуюць жыхароў. А ўсё гэта на славу Госпада.

Тэкст і фота
**Міхала МІНЦЭВІЧА**

# Вяртанне на Бацькаўшчыну

**(ч. 5)**



Бяда перакуліла ўсё дагары нагамі. І мая сям'я, Трафім і ўжо новы член яе Дзмітры Шуль вясною 1922 года вырушылі ў родную вёску. Таксама ехала сям'я Вавюркаў з вёскі Тапаркі. Ехалі доўга і аўстрыйцы з Чэшскага корпуса, а былі гэта пераважна ўкраінцы, чэхі, славакі і яны сваю долю дзялілі з нашымі бежанцамі, а ў рэдкіх халодных вагонах былі нават коні і іншы бедны інвентар нашага люду, ужо бліжэй Урала. І аднойчы адзін конь зламаў нагу і аўстрыйцы маланкава (бо што рабіць?) яго зарэзалі і мяса спяклі і ім дзяліліся, і то ў першую чаргу з нашымі людзьмі. Бяда аб'ядноўвае людзей.

І так з рознымі прыгодамі мае бежанцы вярнуліся дамоў, лічыць на ўсё голае, пры канцы вясны 1922 года. Хто быў бліжэй у бежанстве ў Расіі і пераважна ў Саратаўскай губерні, вярнуліся раней, у 1919-1920 гады. І мая маці Марыя сіратой таксама там была, ехала туды з бацькам Данілам Чыквінам і яго братам Пятром (гэта быў слынны скрыпач і майстар на ўсе рукі, добра яго памятаю), і ехала яшчэ мачаха маёй маці, бо родная маці, мая бабуля Зінаіда, што паходзіла з Вітава з роду Невядомскіх, памерла, калі маёй маці было некалькі гадоў, і дзед Даніла ажаніўся другі раз і памёр у дарозе ў бежанства. І ёсць супольны здымак яго і брата Пятра Чыквіна.

Што ж, вярнуліся ў свой родны кут, а тут ні кала, ні двара. Бяда, голад, галеча, але ж трэба жыць. Але ёсць і верны памочнік і сем'янін дзед Дзмітры Шуль, які, нягледзячы на розныя абставіны жыцця, астаўся верным да канца (аж да самай смерці), і нягледзячы на пяцёра дзяцей, яшчэ ў дзіцячым узросце (хаця Федзя, мой дзядзька, меў ужо 16 гадоў, мой бацька — 14, дзядзька Мяфодзій — 12, Мішка — 10, Ванька — 8 гадоў) — шанаваў нашу радню як сваю і кахаў сваю жонку Гапку (так яе называлі), нашу бабульку. Быў працавіты і кемлівы. Спачатку ад прыезду з бежанства мае дзядзькі і мой бацька жабравалі. А найбольш ім дарылі бедныя людзі з-пад Белавежскай пушчы, а багатыя, на поўнач ад нас, часам перад іх носам зачынялі дзверы, каб не ўпусціць у хату.

Пасля пачалі пасвіць кароў, свіней у навакольных вёсках. Бацька і дзядзька Мішка наняліся пасвіць быдла ў Дубічах-Царкоўных. Кармілі пастушкоў нядрэнна, як на той час, бо смакоцця ніхто не меў, па чарзе, ад адной хаты ў другую. Хаця былі і дзіўныя здарэнні. Аднаго разу пастушкі з'елі сняданак у адных гаспадароў, а гаспадыня на абед ім у торбачку ўсунула цалкам голыя косці, найперш дакладна аблупіўшы мяса, прытым на вачах у пастушкоў, і муж яе іранічна ўсміхнуся (як мой бацька казаў, «улыбнуўся»), глядзеўшы на гэта. Калі бабулька даведалася пра гэтую гісторыю, дык горка заплакала. Што ж, усяк бывала. Пасля пасвілі ў вёсцы Малыя Пасечнікі, і то некалькі гадоў. Бацька казаў, што найгорш пасвіць свіней, бо яны разбягаліся навокал і не баяліся пагроз. Ну, не былі б яны свінні, таму нехта мудра назваў гэтых жывёлін гэтай назвай. Бацька хваліў жыхароў гэтай вёскі і з многімі падружыўся аж да канца свайго жыцця.

Нейкі будан ужо паставілі і можна было хавацца ад дажджу, ветру і марозу. Амаль усе мае дзядзькі, у тым ліку і бацька, сталі майстрамі і сталярамі, а найлепшы з іх быў Мяфодзій.

Трафім многа разоў хадзіў у Бельск са сваім пасведчаннем аб сярэдняй адукацыі ў школьныя і асветныя ўлады, каб знайсці нейкую працу ў школе, як настаўнік. Але гэта былі дарэмныя захады, бо заўсёды меў адзін адказ: брак працы і чыноўнік разводзіў рукамі. І калі б мой сваяк прыняў каталіцкую веру і стаў палякам, дык тады мог бы дастаць працу і прафесію. На шчасце такіх людзей у той час амаль не было. Бо былі патрыётамі сваёй айчыны, хаця жылі ў бядзе. Сёння ўсё мяняецца. І я не раз задаю сабе пытанне: а каб сёння вярнуліся гэтыя цяжкія ўмовы, якія перажывалі нашы бацькі, дзяды? Як нашы маладыя людзі сёння слова патрыятызм прынялі б да свайго сэрца і ці сапраўды гэта слова разумеюць належна, калі самі гутараць усюды і ў хаце па-польску? Глядзім праграму ў тэлебачанні пад назвай «У крыніцы веры», дык там нашы бацюшкі гутараць выключна па-польску. А яны ж вучоныя людзі і добра ведаюць нават літаратурную беларускую мову, а і наша «па-свойму» не горшая. Дык чаму яны саромеюцца гэтай мовы, нашай роднай мовы? Украінцы мо і вышэй стаяць ад нас. А што ўжо гаварыць пра літоўцаў там на Сейненшчыне? Дык у іх і ў праграме ў тэлебачанні, там ад малога да вялікага, ад селяніна, чыноўніка, прафесара, ксяндза... усе яны гавораць на сваёй роднай мове і не саромяцца. Во дзе знаходзіцца патрыятызм і любоў на сваёй мовы, гісторыі, спадчыны... Мы ад іх павінны навучыцца гэтай высакароднай мэты і гарачай, светлай якасці. Бо інакш нас застанецца адна жменька верных паслядоўнікаў роднай беларускай айчыны Падляшша. Варта над гэтым прызадумацца, пакуль яшчэ не позна.

«Камуна» першая хацела нас апалячыць, і дам прыклад. Дык на ўсіх партыйных сходах у нас (я належаў да партыі 20 гадоў), усе таварышы, і то з роднай нашай вёскі, балбаталі па-польску і, ясна, вельмі калечылі гэтую мову. А мой бацька таксама стараўся не застацца ззаду. На маё запытанне: «Чаму і ты цокаеш па-польску?» бацька адказваў: «А што, я не ўмею гаварыць па-польску?». І ясная выснова: пахваліцца, што ён ведае, а ці «ведаў»? Я бы мог сказаць яму: «Бо і не ведаеш, як трэба». Але гэта была б вайна ў хаце. І лепш было прамаўчаць. Я не хвалюся, але ніколі на сходах я не цокаў па-польску, мо таму мяне не вельмі любілі. Таварышам я не адзін раз гаварыў: «Не асмяшайце сябе і гаварыце па-свойму». Але мае словы адбіваліся як гарох аб сцяну. Некалькі разоў на партыйных сходах быў шчыры беларус і дзеяч Мікалай Самоцік, дык і ён гаварыў па-польску, відаць, мусіў, і адзін раз сказаў нашым таварышам: дык вашы сходы нудныя і нецікавыя. Гэта была шчырая праўда.

А тое, што камуністы хацелі нас апалячыць і пазбавіць усяго роднага, гэта было ясна як на далоні. І гэты варожы пачын ішоў з самай высокай гары ўлады. І таму не трэба шукаць вінаватага ў самога „Бурага" — Рамуальда Райса і іншых правадыроў падполля, калі ішла палітычная барацьба зараз пасля вайны. Бяда, калі не хапае ў сэрцы патрыятызму да роднага слова.

А тое, што паўстала родная беларуская газета «Ніва», гэта пачын шчырых беларускіх патрыётаў, якія не склалі сваіх рук у гэты бурлівы і цікавы 1956 год. І дзейнічалі як маглі і камуністычныя ўлады далі згоду на друкаванне «Нівы» і паўстанне беларускай арганізацыі БГКТ. Бо нашы, я ўжо паўтараў — патрыёты, змагары, любімцы роднага слова, гісторыі, спадчыны свае чынілі, як героі, і дабіліся не толькі ў тым 1956 годзе, але намнога раней; найперш паўсталі школы з урокамі беларускай мовы навучання, пасля арганізацыі БГКТ, якая пры помачы многіх стварыла родную беларускую газету «Ніва». Гэта наша перамога! Можам гэтым ганарыцца ў кожны час. І ніколі не падаць духам...

Яшчэ вярнуся да царскіх часоў, тады, калі ў дубіцкай царкве служыў бацюшка айцец Ігнат Краскоўскі. У яго быў сын Іван Краскоўскі, пазней будучы беларускі дзеяч і змагар за незалежную Беларусь. Ігнат памёр у 1909 годзе і пахаваны каля царквы ў нас побач магілы свайго бацькі Тэафіля. І я ведаю, што ў Краскоўскага былі два сыны, якія як гімназісты ў час пабыўкі ў свайго бацькі ўвечары ішлі на могілкі са штомпелем (друкам) і прабівалі ім свежую магілу аж да труны, і адтуль праз прабітую дзірку выходзіла белая здань у постаці чалавека. Хлопцы стаялі заўсёды з ветрам, каб тая здань іх не зачапіла, а пайшла з ветрам. Яны як граматныя добра ведалі, што гэта з цела пакойніка выходзіў атрутны газ фосфар і прымаў від чалавека. Гэта нішто іншае як хімічная рэакцыя. Гэту гісторыю калісь расказваў Кірыла Кулік, які заўсёды прабываў каля бацюшкаў і многа гадоў быў дзякам у нашай царкве. Гэтага дзядзьку добра памятаю.

Людзі пасля бежанства неяк станавіліся на ногі і была дружба (гэта не сёння), будавалі бедныя хаціны, хлеўчыкі, клуні. Здабывалі жывы інвентар — конікаў, каровак, свіней, авечак, курэй. Аблогі на палях, зарослыя пустазеллем і нават маладняком, ачышчалі. Першыя гады галадалі і спечаны хлеб з жолуддзем і іншымі дадаткамі здаваўся тады прысмакам. Гэта не сёння, што пры куплі яго перабіраюць — каторы лепшы, каторы горшы.

Калі бацька пасвіў у Дубічах і калі статак прабываў каля Бахматоў, дык там яшчэ дзейнічаў вадзяны млын ва ўласнасці братоў Якіма і Сямёна Герасімюкоў. Яны яго калісьці пабудавалі над рэчкай Арлянкай, працякаючай побач. Яны былі майстры, жыў тут каля іх і брат Мірон. Іхні брат Даніла яшчэ ў царскі час выбраўся адтуль і яго хацінка ў Дубічах-Царкоўных стаіць і сёння — выстаяла гэтыя бурныя часы Першай і Другой сусветных войнаў. Ёй ужо можа 150 гадоў (як калісьці пісаў я пра яе ў «Ніве»). І вось яшчэ недзе ў 1922-1924 гадах тут у млыне малолі жыта на хлеб і чуваць было гукі: рыпу-рыпу... Гэта вадзяное кола выдавала гэты дзіўны і знаёмы водгук. Праз некалькі гадоў млын перастаў дзейнічаць і яго будынак, даволі вялікі, стаяў тут да самай Другой сусветнай вайны, калі Нямеччына напала на Савецкі Саюз.

І тады, у 1922 годзе, леткам, ужо пад вечар, недзе каля бліжэйшага лесу, а то і каля вёскі было чуваць выстралы з рэвальвера. Гэта Андрэй Тамашук, сын слаўнага Тараса, страляў для сваёй пацехі, а мо з геройства? Ён ужо хаваўся ад паліцыі і яна яго шукала, бо ён належаў да беларускай арганізацыі, мэтай якой было вызваленне толькі што нядаўна захопленай палякамі нашай тэрыторыі і стварэнне незалежнай Беларусі ды адлучэнне яе так ад Варшавы, як і ад Масквы. Гэта была барацьба, лічыць, на вецер, бо што жменька наіўных дзівакоў магла зрабіць супраць польскай арміі, якая пад Варшавай у 1920 годзе разагнала дзікіх ездакоў Будзённага і абарваных салдат Тухачэўскага? Тут не трэба зноў і арміі, бо хапіла паліцыі, якая недзе пад Беластокам сярод быдла злавіла большасць «змагароў», і пасля іх судзілі. Хіба толькі Андрэй Тамашук дастаў смяротны прыгавор у судзе ў Беластоку, і яго расстралялі. Над сваёй магілай напісаў некалькі слоў бацьку Тарасу; маўляў, я ўжо раскаяўся і непатрэбны быў мой гераізм спалучаны з бандытызмам і рабункам... Паліцыя гэта пісьмо даручыла Тарасу і яно сёння ёсць у сям'і і дзяцей Агафона — брата Андрэя, якія пражывалі ў Гайнаўцы (ужо не жыве). Некаторыя члены гэтай арганізацыі, як Герман Шыманюк з Грабаўца (мой сваяк па маці) здолелі ўцячы ў Савецкую Беларусь і там неўзабаве склалі свае галовы ў час дзікіх чыстак 1934-1938 гадоў. Ім трэба было ўцякаць у Літву, бо адтуль атрымлівалі яны зброю і лістоўкі са сваёй прапагандай...

(працяг будзе)

Мікалай ПАНФІЛЮК

# Славаміру Трафімюку — 50 гадоў

19 ліпеня 2020 года Славаміру Трафімюку, лідару гурта «Ас» споўніцца 50 гадоў. Час няўмольна бяжыць. Славамір Трафімюк — заснавальнік і харызматычны лідар гурта «Ас», выдатны вакаліст адораны арыгінальным тэмбрам голасу. Але перш за ўсё Славамір Трафімюк як адзіны (па-за Генадзем Шэметам) аўтар слоў і музыкі да многіх песень, якія на нашым беларускім музычным рынку сталі ўжо народнымі. Славамір Трафімюк напісаў словы і музыку да найбольшых хітоў гурта «Ас» — „Песня пра каханне",„Едуць гарадскія", „Песня пра маму", „Айчына", „Гэй паны", „Тост для бацькоў", „Дзяўчыначка", „Толькі кахай", „Не забудзь, беларус", „Мама ІІ", „У маю" і многа іншых. Песні гурт «Ас» гучаць на беластоцкіх радыёстанцыях — Радыё Беласток, Радыё Рацыя, Radio Jard, Radio Orthodoxia. Гурт «Ас» сыграў мноства канцэртаў на Падляшшы, ва ўсёй Польшчы, на Беларусі, а таксама ў Бельгіі. Гурт «Ас» выпусціў касеты на беларускай мове — „Выйду на вуліцу" (1994), „Едуць гарадскія" (1995), „«Ас» для Вас" (1998), а таксама беларускія кружэлкі „Прыязджайце на свята" (2001), „Залатое калечка" (2005), „Песні нашых бацькоў" (2008) і „Ты ляці мая душа". У 2008 годзе «Ас» выпусціў дыск з самымі папулярнымі праваслаўнымі калядкамі, а ў 2002 годзе ўкраінскамоўны альбом „Як що любиш, кохай", на якім была толькі адна беларуская песня «Лёс» на словы самага вядомага ў беларускім свеце паэта з Беласточчыны Віктара Шведа. Дарэчы, Віктар Швед вельмі многа рускіх і ўкраінскіх песень пераклаў на беларускую мову. На навейшым альбоме гурта «Ас» з'явіцца песні «Рабіна» «За дзяўчынай», да якой словы напісаў менавіта Віктар Швед.

7 ліпеня 2020 года вечарам я дамовіўся са Славамірам Трафімюком на сустрэчу ў яго хаце. На парозе сустрэў мяне сам гаспадар, а таксама яго жонка Анэта. Пры смачнай гарбаце пачалі мы гутарку пра гісторыю гурта «Ас». Спадар Славамір паказаў мне старыя сшыткі з песнямі і гітарнымі акордамі. Гэта гістарычныя матэрыялы якім па сорак гадоў. Потым лідар гурта «Ас» уключыў мне касету ад 1989 года з першым дэмазапісам невыдадзеных песень гурта «Ас». Калі ўпершыню пачуў касету пачуў Ежы Сушыцкі (першы дырэктар беластоцкай фанаграфічнай фірмы Green Star), дык ад пазітыўнага ўражання валасы на руках сталі дыбам! На другой дэмакасеце чуваць Славікавага сабаку Брутуса. Дарэчы, гэтыя касеты пісаліся ў родных Славікавых Стральцах. Тады гурт складалі Славамір Трафімюк — вакал, клавішы, Яраслаў Баравік — бас-гітара, вакал і Андрэй Садоўскі — клавішы. Каля першых версій ад 1989 года на гэтай касеце песень «Аса» ёсць і невыдадзеныя „Чёрный кот", „Миллион алых роз", першая версія песні „Smutne oczy" ці „Szkoda łez". Голас тады дзевятнаццацігадовага Славаміра Трафімюка вельмі мяккі. Славамір Трафімюк вельмі прыемна ўспамінае родныя Стральцы. Абое бацькі вельмі прыгожа спявалі, старэйшы брат Жэнік вучыў яго іграць на гітары. Да гэтай пары лідар «Аса» захоўвае сшытак (з 1980 года!) з беларускімі, украінскімі і рускімі песнямі, які яму на 18 гадавіну з дня нараджэння падарыў брат Яўген. Дарэчы, Яўген Трафімюк вучыўся ва ўніверсітэце ў Варшаве і дзейнічаў у БАСе! «Ас» у 1995 годзе выступіў на «Басовішчы». У гэтым жа годзе выпусціў польскамоўную касету „Szkoda łez" з аранжыроўкамі Марка Зрайкоўскага, а ў 1997 годзе — „Na Miami". У 1995-2000 гадах гурт «Ас» іграў канцэрты па ўсёй Польшчы. Кліпы „Na zamku", „Szkoda łez" і „Na Miami" ў дзевяностых гадах можна было пабачыць у перадачы „Disco Polo Live" на спадарожнікавым польскім тэлеканале Polsat на цэлым свеце! Калі «Ас» вярнуўся іграць у 2017 годзе, дык запісаў рэмэйк кліпаў „Szkoda łez" і „Na zamku". Апошні кліп набраў амаль 4 мільёны праглядаў! Кліп „Szalona miłość" — польская версія беларускай песні „18 лет" (словы і музыка Славаміра Трафімюка) «Ас» запісаў у роднай вёсцы лідара гурта Стральцы за свае грошы. Хаця «Ас» выдаў у 2019 годзе польскую кружэлку „Zatańczmy jeszcze raz", дык гурт рыхтуе беларускі кампакт-дыск, на якім будзе 20 беларускіх песень. Я як адзін з першых пачуў навейшую песню гурта „Бярозавы край", якой прэм'ера адбылася на Радыё Рацыя. Калі я ўпершыню пачуў тэкст песні на словы Славаміра Трафімюка дык расплакаўся. Дарэчы, я раней плакаў толькі пры песні вядомага рускага музыканта Юрыя Шатунова „Мама", а песня «Аса» была другой песняй, пры якой я шчыра праслязіўся! Песня гаворыць пра тое, як Еўрасаюз знішчыў нашу падляшскую вёску, як вёска, на якой ужо ніхто не гадуе ні кароў, ні коней, ні свіней, памірае, на якой засталіся толькі старыкі.

Спадару Славаміру з цэлага сэрца жадаю моцнага здароўя, а перш за ўсё каб як найдаўжэй іграў на нашай беларускай сцэне і каб яшчэ напісаў вельмі многа хітоў і выдаў як найбольш альбомаў. Жадаю, каб гурт «Ас» праславіўся далей за Польшчу ці Беларусь, там дзе ёсць вядомы, але каб іграў, іграў і яшчэ раз іграў многа гадоў.

Юрка БУЙНЮК



# http://krasa.by

У свеце існуе мноства брэндаў адзення. Іх, па сутнасці, безліч — вядомыя і не вельмі, для кагосьці прыцягальныя, а для кагосьці адштурхоўваючыя. Беларусам пакуль цяжка пахваліцца нейкім брэндам адзення, які б меў такую сусветную вядомасць як Dolce&Gabbana альбо Gucci, аднак гэта не значыць, што яны не ў стане ствараць прывабныя сукенкі, спадніцы ці гарнітуры. І зрабіць гэта з акцэнтам менавіта на беларускасць. Адным з прыкладаў такога брэнда, які за апошнія паўдзясятка гадоў набыў даволі добрую вядомасць па меншай меры ў Мінску, ёсць брэнд жаночага адзення Krasa. Яго заснавальніцы — дзве маладыя сталічныя жыхаркі Ганна Кулакова і Юлія Субач.

„Беларускі брэнд Krasa — сукенкі найвышэйшага гатунку з лепшых матэрыялаў за разумны кошт. Мы прапануем якаснае беларускае дызайнерскае адзенне оптам: элегантныя дзелавыя, паўсядзённыя і святочныя сукенкі. Мы перакананыя, што сукенак многа не бывае! Апранаючы новую, мы змяняем вобраз і адчуваем сябе зусім па-іншаму, па новаму. Мы стварылі брэнд Krasa, каб апранаць саміх сябе і беларускіх дзяўчат у якасную, стыльную і жаноцкую вопратку. Любы бізнес з душой пачынаецца з захаплення і адчування недахопу. Жаданне зрабіць лепей чым ёсць", — так у рубрыцы „Пра нас" на сайце http://krasa.by тлумачаць яны свой занятак, які стаў справай іх жыцця.

Паводле заснавальніц брэнда, іх мэта — не проста прапанаваць жаночыне сукенку, а зрабіць так, каб за наступнай сукенкай яна вярнулася менавіта да іх. „Бачыць усмешкі, радасць ад набыцця, сустракаць выпадкова дзяўчат у нашай прадукцыі — вялікая радасць", — сцвярджаюць прадпрымальніцы.

Акрамя самапрэзентацыі брэнда, на сайце месцяцца ўзоры сукенак, якія прапануюць пакупніцам уладальніцы модных калекцый. Вырабаў многа, кошт — даволі вялікі, бо самая танная сукенка каштуе каля 30 долараў у пераліку з беларускіх рублёў. Праўда, думаецца, што модніц не спужае гэтая цана.

Пра тое, як з'явіўся дадзены брэнд, у беларускім сегменце інтэрнэту інфармацыі даступна. Галоўнае тое, што абедзве дзяўчыны ад пачатку хацелі займацца той справай, якая ім падабаецца. І ўсё ў іх складвалася добра, пакуль не грымнуў каранавірус. „Дзякуючы" бязглуздаму і бездказнаму стаўленню да эпідэміі нязменнага беларускага прэзідэнта, прадпрымальніцы, як многія іх калегі, апынуліся ў вельмі складаных умовах. З аднаго боку яны не могуць разлічваць ні на якую дапамогу ад дзяржавы, бо няма афіцыйнага каранціну, а з другога — яны мусяць спыняць дзейнасць з-за падзення прыбытку і недахопу сродкаў на аплату арэнды і іншых выдаткаў.

„Думаю, самы правільны падыход дэманструюць еўрапейскія краіны, дзе ўлады кажуць: «Вы пасядзіце дома, але будзеце і далей атрымліваць сваю зарплату з дзяржбюджэту». Але калі ў Еўропы ёсць на гэта грошы, у нашай дзяржавы грошай няма. Я бачу абсалютны тупік: за каранцін плаціць няма чым, а без яго мы бачым, як са з'яўленнем сонца ўсе пляжы Мінскага мора і Цнянскага вадасховішча запоўніліся людзьмі. У нас ужо няма магчымасці спыніць эпідэмію, і мы разумеем, што ў доўгатэрміновай перспектыве ўсім будзе яшчэ горш. На двух шалях апынуліся людзі і грошы — і ў мяне няма дакладнага разумення, як трэба было паступіць. Але ў выніку мы проста прайгралі па дзвюх пазіцыях. Уся гэтая сітуацыя добра паказала, як выглядаюць „пацёмкінскія вёскі", і як на самой справе ў нашай краіны зараз ідуць справы", — распавяла ў маі сайту kyky.org Ганна Кулакова.

Аляксандр ЯКІМЮК

Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара

# 105 гадоў з дня нараджэння Антона ШУКЕЛОЙЦЯ

Беларускі грамадска-культурны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў ЗША Антон Шукелойць нарадзіўся 19 ліпеня 1915 г. у вёсцы Якелеўшчына (Ашмянскі раён). Паходзіў з сялянскай сям'і Антона і Бенядыкты з Пецюкевічаў. Бацька меў гаспадарку і гандляваў лесам. Скончыўшы Жупранскую пачатковую школу, паступіў у Ашмянскую польскую гімназію. У 1939 г. скончыў аддзяленне славянскай філалогіі і этнаграфіі гуманістычнага факультэта Універсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні. У час студэнцтва працаваў ва ўніверсітэцкім этнаграфічным музеі, часта выязджаў для збору матэрыялаў у розныя мясціны Беларусі.

У юнацтве Шукелойць далучыўся да грамадскага руху. У час вучобы ў польскай гімназіі ў Ашмянах быў сябрам беларускага гуртка сацыялістычнай моладзі, якім кіраваў ашмянскі сацыялістычны дзеяч, адвакат Аляксандр Барановіч. У Вільні далучыўся да групы студэнтаў, якая выдавала часопіс беларускай сацыялістычнай думкі „Золак", ідэалагічна набліжаны да эсэраў. Ва ўніверсітэце быў сябрам беларускіх студэнцкіх арганізацый: Беларускага студэнцкага саюза, Таварыства прыяцеляў беларусаведы (быў старшынёй). Спяваў у беларускім студэнцкім хоры пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы.

Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР у 1939 г. Антон Шукелойць працаваў настаўнікам на Ашмяншчыне. Арганізаваў у Ашмянах першую беларускую сярэднюю школу, настаўніцкія курсы і каля 90 беларускіх школ на тэрыторыі былога Ашмянскага павета. Выкладаў беларускую мову ў гімназіі, дзе раней вучыўся сам. У 1940 г. стаў дэпутатам Ашмянскага гарадскога савета, загадчыкам гарадскога аддзела народнай асветы і школьным інспектарам-метадыстам Ашмянскага раёна.

23 чэрвеня 1941 г. арыштаваны органамі НКВД. Вызваліўся з турмы ў выніку налёту нямецкай авіяцыі. У час нацысцкай акупацыі працаваў у аддзеле асветы і культуры Мінскай гарадской управы, упарадкоўваў архівы ЗАГСа, часткова знішчаныя ў выніку ваенных дзеянняў. Затым стаў загадчыкам Беларускага гістарычнага музея (потым Краязнаўчы музей). Далучыўся да падпольнай Беларускай незалежніцкай партыі, удзельнічаў у заснаванні Мінскага камітэта БНП. Пасля арганізацыі ў Мінску Беларускага культурнага згуртавання Шукелойця прызначылі кіраўніком аддзела краязнаўства галоўнай управы. Таксама быў школьным інспектарам пры аддзеле Беларускай Цэнтральнай Рады. У 1944 г. выехаў у Германію.

Пасля вайны працаваў у сістэме адукацыі ў лагерах для перамешчаных асоб у Германіі. Спрабаваў адшукаць у Баварыі сляды вывезеных туды беларускіх музейных каштоўнасцей. У пачатку 1950-х гг. пераехаў у ЗША. Працаваў тавараведам пры Інстытуце вытворчасці моды, у краме вопраткі „Орбакг". Актыўны ўдзельнік жыцця беларускай дыяспары ў ЗША. Шматгадовы старшыня Беларуска-Амерыканскага задзіночання, сябра рэдакцыі газеты „Беларус", сябра Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку.

Антон Шукелойць — аўтар дзясяткаў артыкулаў, успамінаў, некралогаў, апублікаваных у газетах „Бацькаўшчына" і „Беларус". Апублікаваны матэрыялы Шукелойця пра лёс музейных фондаў вывезеных у час Другой сусветнай вайны з Беларусі ў Германію і Аўстрыю. У 2003 г. у Варшаве выйшла кніжка Зянона Пазьняка „Гутаркі з Антонам Шукелойцем". Стагадовы юбілей Шукелойця ўрачыста адзначаўся 19 ліпеня 2015 года беларускай грамадою ў Нью-Йорку (урачыстасць ладзіў Бруклінскі аддзел БАЗА).

Памёр Антон Шукелойць 7 студзеня 2017 г. Пахаваны на беларускіх могілках Жыровіцкай Божай Маці ў Іст-Брансвіку ў штаце Нью-Джэрсі.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

## Грыб сродкам ад раку?

Паявілася публікацыя даследаванняў беластоцкіх навукоўцаў на гэтую тэму ў лекарскім часопісе сусветнага ўзроўню. Гэты грыб можа стаць асновай лекаў супрацьраку каларэктальнага раку. Гэта першая публікацыя, якая пацвярджае супрацьракавае ўздзеянне хваёвага каранёўца — карэннеvай губкі — гетэрабазідона шматгалетняга як у лабараторных умовах, так і на жывы арганізм. Вынікі шматгадовай працы навукоўцаў з Інстытута лясных навук Беластоцкай палітэхнікі ў Гайнаўцы і Кафедры эксперыментальнай фармакалогіі Медыцынскага ўніверсітэта ў Беластоку былі апублікаваны часопісам „Journal of Molecular Sciences”.

— Было вядома, што Heterobasidion annosum выклікае хваробу, якая разбурае цэлыя дрэвастоі. Цяпер даказана, што гэты грыб таксама можа перашкаджаць росту ракавых клетак, не знішчаючы здаровых. Навукоўцы першапачаткова прааналізавалі яго хімічны склад, вывучылі яго з генетычнага пункту гледжання і ўпершыню пацвердзілі яго патэнцыяльны тэрапеўтычны эфект, — тлумачыць доктар Эва Запора з Інстытута лясных навук Беластоцкай палітэхнікі.

Публікацыя даследаванняў з'яўляецца асновай для падачы заявак на гранты на далейшую дзейнасць, напрыклад, у Нацыянальны цэнтр даследаванняў і распрацовак. Навукоўцы з Беластоцкай палітэхнікі і Медыцынскага ўніверсітэта ў Беластоку хочуць сярод іншых правесці больш падрабязны аналіз хімічнага складу хваёвага каранёўца.

— На мой погляд, прыйшоў час для вялікага навукова-даследчага праекта, наступствы якога могуць зацікавіць фармацэўтычныя кампаніі, — рэзюмуе доктар Эва Запора, суаўтарка даследавання. На яе думку, уява стварэння лякарства ад раку прамой кішкі застаецца яшчэ далёкай, але рэальнай.

Кансорцыум беластоцкіх вучэльняў разам з навукоўцамі з Універсітэта Марыі Кюры-Складоўскай і Collegium Medicum Ягелонскага ўніверсітэта выкарыстоўваюць у даследаваннях выпіскі з банка выцяжак, створаных супрацоўнікамі Інстытута лясных навук Беластоцкай палітэхнікі ў Гайнаўцы. Калекцыя звыш 200 экстрактаў грыбоў Белавежскай пушчы можа стаць асновай для шэрагу даследаванняў не толькі ў галіне медыцыны, але і ў галіне ветэрынарнай медыцыны, інжынернай экалогіі і харчовай прамысловасці.

— Да нас ніхто не вывучаў лячэбных уласцівасцей хваёвага каранёўца, хаця гэта звычайны грыб па ўсёй Еўропе. Такім чынам, мы вывучаем усялякія віды грыбоў з надзеяй на далейшыя адкрыцці. Я думаю, што ў нас будзе прарыў у культуры ўжывання і падыходу да грыбоў, — мяркуе доктар Эва Запора.

Беластоцкія навукоўцы чакаюць рашэння аб выдачы патэнта на новае выкарыстанне хваёвага каранёўца. Яны таксама падалі заяўку на еўрапейскі патэнт.

**(лук)**

## Зараз ходзім у лес па плiскi

На пачатку ліпеня гэтага года ў вільготных ад дажджу сасновых і мяшаных лясах Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета пачалі расці плiскі. Усе яны здаровыя, не чарвівыя. Пакуль што іншых, як у нас кажуць, бэтак няма. Няма нават г.зв. воўчых бэтак.

Навaляўкоўскі вопытны грыбнік Кастусь Целушэцкі (на здымку з плiскамі ў далонях) амаль кожную раніцу едзе ў лес, часта з дачкой Марыяй. Тады яны спаборнічаюць, хто назбірае больш тых ці іншых грыбоў.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

Фонд „Царкоўная Музыка” у Гайнаўцы

XVIII Міжнародны Фестываль

Белавежскія Мастацкія Інтеграцыі

„ПЭРЭТОЧЭ 2020”

Выступаючыя калектывы прэзэнтуюць культуру:

польскую, беларускую, габрэйскую, цыганскую, літуўскую, расейскую і украінскую

1 жніўня 2020 г. у 18.00 гадзін

Амфітэатр у Белавежы

Ніва

## Адгаданка

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | |
| | | 26 | 27 | 28 | | 29 | 30 | | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | |
| 36 | 37 | 38 | 39 | 40 | 41 | 42 | | 43 | 44 | 45 | 46 | 47 | 48 | 49 |

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — пагаворку.

1. насякомае з джалам = 19 _ 20 _ 2 _;
2. сплеценыя ў кружок кветкі = 44 _ 42 _ 41 _ 14 _ 8 _;
3. белавежскі звер = 1 _ 32 _ 15 _ 4 _;
4. зло, бяда = 38 _ 37 _ 43 _ 21 _;
5. неадукаваны чалавек = 40 _ 28 _ 36 _ 25 _ 24 _;
6. кітайская сталіца = 33 _ 30 _ 31 _ 34 _ 29 _;
7. горад між Ломжай і Гіжыцкам = 10 _ 11 _ 12 _;
8. на носе ў насарога = 16 _ 5 _ 3 _;
9. зморанасць ад цяжкай працы = 46 _ 47 _ 48 _ 49 _ 45 _;
10. левы прыток Дзвіны ў Бешанковіцкім раёне = 9 _ 27 _ 26 _;
11. крок = 6 _ 17 _ 18 _;
12. шкло ў аконнай раме = 35 _ 7 _ 22 _ 23 _;
13. зміяная атрута = 39 _ 13 _.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 25 нумара**

Вал, вожык, ёд, Кама, Сінай, соль.

Рашэнне: **Кожны сам сваёй долі каваль**.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

## 19.07 — 23.07

**(22.03. — 20.04.)** Можа ў цябе трапіць страла Амура! Можаш таксама падагнаць хвасты ў хатніх справах, пабыць больш з блізкімі. 19-23.07. пераканаеш усіх да сваёй думкі, памогуць тут цвёрдыя аргументы і веды. Не праваронь імпрэзы 19-21.07. 19-23.07. трэба будзе вярнуцца на шпітальную койку або на рэабілітацыю. Пасля 22.07. успомніш пра старых сяброў.

**(21.04. — 21.05.)** Ажыццяўляй свае планы. Некаторыя прынясуць табе поспех і касу. Можаш здзейсніць неверагоднае. 19-21.07. пераканаешся, як добра мець суседа — яго інтэрвенцыя можа прадухіліць пажар ці ўзлом у тваю хату. Будзеш мець шчасце ў кантактах. Асобы, з якімі будзеш працаваць, акажуцца быць адпаведнымі людзьмі на адпаведным месцы. 21-23.07. з новым калектывам можа быць цяжэй, але пазмагаецеся і станеце пераможцамі. 19-23.07 грошы можаш інвеставаць у нерухомасці, зямлю або золата.

**(22.05. — 22.06.)** 21-23.07. заляціць табе ў галаву задума, як даць сабе рады з праблемай. Надзея на згоду. 21-23.07. падзьме табе вецер у спіну — выкарыстоўвай нагоды, задумы і знаёмствы, якія неспадзявана паявяцца. 19-23.07. хіба трэба будзе хутка шукаць зубнога ўрача! Зведаеш свае моцныя бакі і пазбудзешся комплексаў. Блізнятам, у якіх добрая праца, захочацца яшчэ лепшай.

**(23.06. — 23.07.)** Можаш рушыць у падарожжа. 19-23.07. з-за празмернай асцярожнасці не страць знакамітай нагоды. Пададуць голас нялёгкія сямейныя справы; не турбуйся. Пазнаёмішся з новымі людзьмі, можа маладзейшымі, якія паўплываюць на тое, што табе захочацца жыць цікавей. Варта змагацца за найвышэйшую стаўку!

**(24.07. — 23.08.)** Многа не плануй — больш дасягнеш. Твой запал будзе студзіць Сонца над гарызонтам. Калі марыш парваць з руцінай і абмежаваннямі, найлягчэй удасца табе гэта 18-21.07., але не пераборшчвай з гэтым! Не пераймайся балбатаннем іншых, асабліва тых, што адно плятуць кашалі. 19-23.07. пагадзіся з тым, што не ўсё ўтрымаеш пад кантролем. Кашалёк, на жаль, не спухне. Не шкадуй часу на адкрытым паветры.

**(24.08. — 23.09.)** 19-21.07. не праваронь нагоды на сімпатычнае знаёмства. 21-23.07. натрапіш на геніяльную задуму, дзякуючы якой твая кар'ера набярэ размаху. 19-23.07. ніхто цябе не падвядзе, будзеш пранікнёны, спрытны і кемлівы, справішся з найскладанейшымі шарадамі. Пры нямогласці шукай неканвенцыянальных парад. На працы варта пазмагацца за моцную пазіцыю. Не ўключайся ў любоўныя справы сяброў.

**(24.09. — 23.10.)** Спакойна глядзі на свае інвестыцыі. Пануй над сваімі эмоцыямі. Адпачывай. Фізічная форма штораз лепшая, добра наладжваюцца новыя кантакты, някепска і ў каханні. Не загарай доўга на сонцы, прымяняй крэмы з фільтрам.

**(24.10. — 22.11.)** 19-21.07. час новых кампанейскіх шанцаў і выдатнай забавы. 21-23.07. запаліцца зялёнае святло для тваіх новых задум і ідэй. Нават для такіх, якія здаюцца быць шалёнымі, нерэальнымі ці проста навырост! Фінансава будзеш бяспечны. З 22.07. выкарыстаеш свае мастацкія таленты і звернуць на сябе ўвагу. Але 19-23.07. можа быць парушана твая ўнутраная раўнавага і самаўпэўненасць. Не еж невядома чаго.

**(23.11. — 22.12.)** З 22.07. адчуеш гатоўнасць да новых прыгод і выклікаў. 21-23.07. вельмі пільнуйся, каб не праваронець тэрміну і не правалі нейкую важную справу. З 22.07. (да 30.07) найлепшы час на легалізацыю сувязей. 19-23.07. не прастудзіся.

**(23.12. — 20.01.)** Смела рушыш наперад і ўвядзеш у жыццё змены. Твая пазіцыя і ўплывы значна вырастуць. 19-23.07. паразмаўляй з партнёрам і высветлі няяснасці; упарадкуеце справы. З 22.07. усвядоміш, што жыццё закароткае для таго, што сапраўды цябе не цікавіць. 19-23.07. можаш нарвацца на чыюсь абыякавасць або неахвоту. 21-23.07. глянеш на свой занятак з іншага боку і падыдзеш творча да праблем. Большасць спраў вырашыш не выходзячы з хаты.

**(21.01. — 19.02.)** 19-23.07. можа дайсці ў пары да таго, што абы-што вас адаліць. 21-23.07. шанц на змену працы, што рызыкоўнае, але варта гэта зрабіць для ўласнага задавальнення і развою. Лепшыя перспектывы будуць бачны пасля 22.07. Трэба будзе пачакаць рашэнняў чыноўнікаў. Матэрыяльныя справы добра ўладзяцца, больш дзякуючы шчасцю. Але адкладвай грошы на капіталаўкладанні. Інвестуй з галавой. 21-23.07. будзе табе спадарожнічаць выбух тваёй крэатыўнасці, якую поўнасцю выкарыстаеш. Засвеціць для цябе Сонца! Пераканаешся, што значыш, асабліва для адной асобы.

**(20.02. — 21.03.)** Будзе час на адпачынак і цяжкую працу; знойдзеш паміж імі залатую сярэдзіну! Больш радасці ў сэрцы. Рыба з III дэкады: 19-21.07. час закрыць жыццёвы раздзел і адкрыцца на новае. 21-23.07. магчымасць пачатку новай працы, прытым пазмагаешся за сваё, патаргуешся ў час кваліфікацыйнай размовы, дапільнуеш, каб твае кампетэнцыі былі добра ацэнены. Але 19-23.07. могуць турбаваць цябе невялікія праблемы са здароўем.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# „Вечная” памяць

У Каралёвы Мост аўтобус завозіць мяне ў палове дзявятай нядзельнага ранку, 5 ліпеня. Іду ў царкву. Царкоўныя дзверы адкрыты, у іх крата, праз якую можна заглянуць у інтэр’ер храма. Адно толькі веснічкі на царкоўны пляц не адкрываюцца; і да тых адкрытых дзвярэй немагчыма падысці. Хіба што па-дэсантніцку пералезці цераз агароджу...

Іду тады шукаць прыходскіх могілак. Быў я там калісь, можа яшчэ ў мінулым стагоддзі і забыў іх тапаграфію. Выходжу вулачкай на загуменне, мяркуючы, што вядзе яна да загуменнай дарожкі, ад якой неяк удасца ў тамашнюю некраполію трапіць. Чаму на могілкі? Бо там, у брацкай магіле, пахаваны жыхары Папоўкі, замардаваныя гітлераўцамі 3 ліпеня 1943 года; амаль гадавіна...

Загуменная вулачка выводзіць мяне ў тупік. Яна да пабудаваных далей ад вясковай вуліцы катэджаў. Бо Каралёвы Мост быў вёскай даўней, некалькі дзясяткаў гадоў таму, а зараз гэта свайго роду катэджна-адпачынковы цэнтр. Побач рэчка Плоска, вакол парослыя лесам узгоркі, ніякай насычанай хімікатамі сельскагаспадарчай дзейнасці... Кусочак раю на зямлі.

Вяртаюся на вуліцу. І вуліца ў Каралёвым Мосце не абы-якая. Яна абсаджана дастойнымі ліпамі, акурат у росквіце, які суправаджае далікатнае гудзенне пчолак. За расходнымі дарогамі, што за прыхаванай у засені дрэў каталіцкай капліцай святой Анны, кіруюся направа і неўзабаве паказваецца высока над дарогай могілкавая агароджа. Крышку часу займае мне пошук брацкай магілы жыхароў Папоўкі. Намагільнік іншы, чым той, што давялося мне бачыць калісь, даволі новы...

Вяртаюся. Пры могілках заўважаю ровар, старую дамку. Заходжу пад царкву, адна веснічка ўжо адкрыта, але крата ў царкоўных дзвярах усё яшчэ трымае сваю варту. Заходзіць жанчына з бачаным мною роварам. Пытаю яе, калі пастаўлены новы намагільнік на брацкай магіле жыхароў Папоўкі, і хто яго паставіў. Аднак жанчына не ведае; мяркуе, што намагільнік паставіла гміна.

Набажэнства пачынаецца ў дзесяць гадзін. Прысутнічае каля шасцідзесяці вернікаў. Спадзяюся, што пасля літургіі будзе нейкая паніхіда ў гадавіну здзейсненага на мясцовых прыхаджанах злачынства. Аднак ніякай паніхіды. Толькі пасля набажэнства бацюшка прапануе вернікам кніжку „Zamordowane wsie”, пра якую нядаўненька была на гэтых старонках згадка; ёсць там раздзел пра Папоўку. Адзін мужчына пагартаў кніжку і аддаў яе бацюшку...

Пасля ўсяго пытаю жанчыну, што прадавала свечкі, пра памінальнае набажэнства — можа яно было ў круглую гадавіну, два дні раней?.. Яна, аднак, нічога не ведае і адсылае мяне да бацюшкі або старасты. Ну то я да бацюшкі, прадстаўляюся, зазначаючы, што маё прозвішча ў пераліку аўтараў кніжкі. І пытаю пра памінанне пакутнікаў з прыхода. Бацюшка, якому з выгляду пад семдзесят, адказвае, што ён гадавін не знае, ніхто ў яго малебна на гэты конт не заказвае, а на той брацкай магіле ён моліцца на Провады і Усіх Святых. І так за ўвесь час ягонай службы на прыходзе...

Іду ў Папоўку. Цераз Даўнева і лес. Даўнева таксама забудоўваецца загараднымі катэджамі. За агароджамі стрыжаная траўка, а дзе агароджы няма, там царыць „усходняя сцяна”... На карце гэты маршрут вядзе ад Каралёвага Моста да Папоўкі і з’яўляецца часткай Шляху Студзеньскага паўстання; пазначаны ён чырвоным колерам. На карце ён пазначаны прыстойна, а на месцы, на некаторых расходных дарогах, трэба здагадвацца куды падацца. Мне ўдалося выбіраць правільныя напрамкі, дзе знак маршрута паяўляўся толькі сто-дзвесце метраў за расходам; добра і гэта.








У Каралёвым Мосце, на згаданым разгалінаванні дарог каля капліцы, паказальнік на Папоўку і адлегласць — 7 кіламетраў. Аднак Папоўка не засацыявана са шляхам Студзеньскага паўстання; яна там так ананімна. Шлях праходзіць спярша па асфальтаваных вуліцах Каралёвага Моста і Даўнева, пасля па гладзенькай лясной жвіроўцы, а далей па прарэзанай цяжкімі ляснымі машынамі грунтавай дарозе; перад самой Папоўкай па лясной дарозе вымашчанай травой.

Папоўка гэта ўжо не вёска — яе ўсіх жыхароў гітлераўцы пабілі; толькі адной тагачаснай дзяўчыне, Альжбеце Дзянісюк, якая пазней назавецца Элізай Матэйчук, удалося схавацца і ўцячы. На месцы Папоўкі лес, помнік, валун і прыпынак для краязнаўцаў.

Міхал Гнатоўскі ў кнізе „Wieś białostocka oskarża”: „Вёска была расналожана каля 20 кіламетраў на ўсход ад Беластока на тэрыторыі Кнышынскай пушчы. Да пацыфікацыі налічвала 5 гаспадарак і 34 жыхары. У навакольных лясах дзейнічалі савецкія партызанскія групы, якім насельніцтва несла ўсебаковую дапамогу. Гэта стала зачэпкай для яе пацыфікацыі. Адбылася яна ў днях 30 чэрвеня — 3 ліпеня 1943 года. Пацыфікацыю здзейснілі жандары з пастарунку ў Гарадку і суседніх пастарункаў. 30 чэрвеня жандары арыштавалі ўсіх пражываючых у вёсцы мужчын. Трымалі іх у арышце ў пастарунках жандармерыі ў Радуніне і Гарадку. 2 ліпеня гітлераўцы затрымалі апошніх жыхароў вёскі, г.зн. жанчын і дзяцей. Вывезлі іх у Гарадок. Гітлераўцы знуткаваліся над зняволенымі, б’ючы іх, цкуючы сабакамі, галодзячы. Прысуд быў здзейснены 3 ліпеня на жыдоўскіх могілках у Гарадку. Замардавана 36 асоб, у тым ліку 16 дзяцей ва ўзросце ад 1 да 15 гадоў. (...) Маёмасць жыхароў зрабавалі немцы. Частку вясковых будынкаў знесена, апошнія былі датла спалены...”. На валуне і помніку пададзены лік 37 асоб, на брацкай магіле 38 прозвішчаў...

„Gazeta Białostocka” ўвосень 1959 года інфармавала пра Папоўку: „Жыхары вёскі памагалі партызанам атрада „Бацькі”. Вясной 1943 года ў атрад „Бацькі” пранік агент беластоцкага гестапа Эўгеніюш Бівойна, псеўданім „Караль” н-р 32. Агент пазнаў жыхароў Папоўкі і зафіксаваў, якую дапамогу нясуць яны партызанскаму атраду. (...) Дагэтуль на месцы, дзе была вёска Папоўка, не было нават таблічкі, паведамляючай пра гітлераўскае зверства. Грамадскія нарадовыя рады Каралёвы Мост, Залукі, Гарадок і Валілы вырашылі ўвекавечыць месца вёскі Папоўка. На агульнай нарадзе прынялі рашэнне ўзвесці сціплы помнік з памятнай таблічай. Прэзідыум Павятовай рады нарадовай у Беластоку прызначыла для гэтай мэты 5 тысяч злотаў, рэшту сродкаў прэзідыумы згаданых рад нарадовых збяруць сярод жыхароў навакольных вёсак. Варта хіба, каб і іншыя грамадскія рады, на тэрыторыі якіх знаходзяцца масавыя магілы ці іншыя месцы гітлераўскага варварства, пайшлі следам грамадскіх рад з Беластоцкага павета і ўзяліся за парадкаванне тых месц”. А ў палове 1960 года: „... у Папоўцы адбылася ўрачыстасць адкрыцця памятнага валуна ў гонар памардаваных жыхароў. На ўрачыстасць масава прыбылі навакольныя мужыкі, прадстаўнікі партыі і павятовых улад, моладзь і школьныя дзеці. Адкрыла помнік Ліза Матэйчук, адзіная з жыхароў Папоўкі, што выжыла”. Помнік на месцы, дзе была Папоўка, быў пастаўлены ў 1982 годзе. Намагільнік на брацкай магіле быў абноўлены ў 2013 годзе. І інфармацыйны стэнд на месцы Папоўкі, які паставіла Надлясніцтва Жэдня, таксама даволі новы...

Быццам памяць пра Папоўку вяртаецца, прынамсі ў афіцыйнай грамадскай прасторы. А ў царкве, якой прыхаджанамі былі памардаваныя і іх продкі? Мо яны абыходзілі яе бокам, цураліся ахвярапрынашэнняў. Ну, памагалі савецкім партызанам, то можа папаўляне былі камуністамі, бязбожнікамі, прынамсі некаторыя? Можа ім, некаторым або і ўсім, не належыцца малітоўная памяць? Ніхто ж малебнаў за іх не заказвае, і архірэй не загадвае...

Жанчына на помніку трымае на руках мёртвае дзіця. Каго сімвалізуе гэтая жанчына? Можа памяць? Не здарылася мне зведаць, ці ў грэчаскай або рымскай міфалогіях былі багіні ці багі памяці, ці амнезіі; была толькі рака забыцця Стыкс. Здаецца, што і ў пантэоне сучасных тутэйшых святых няма адказных за памяць. Магчыма, што гэтую ролю выконвае святы Пётр, які трымае страшнасудныя картатэкі...

А можа, па Нагорнай пропаведзі, шчасныя тыя, за якіх не моляцца...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960
29